ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 21 (2579)

28 мая 1998 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1500 рублёў.

КІБЕРНЕТЫК АРКАДЗЬ ЗАКРЭЎСКІ

## СІБІРСКАЯ ЗАГАРТОЎКА



Гэты апавяд пра няпрості лёс таленавітага вучонага, члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, акадэміка Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій, доктара тэхнічных навук, прафесара Аркадзя Закрэўскага, аўтара звыш 350 навуковых прац у галіне кібернетыкі і інфарматыкі, 9 кніг, з якіх адна на англійскай і адна на нямецкай мовах. Ён вярнуўся на радзіму сваіх бацькоў, абышоўшы за трэць стагоддзя ўсю Сібір.

Рана застаўшыся без падтрымкі родных, шмат гора наглытаўся Аркадзь, пакуль на крыло не стаў. Непапраўная бяда абрынулася на сям'ю Закрэўскіх у 1942 годзе ў Краснаярску, куды яны прыехалі з-пад Масквы ў 1936-м. Спачатку памёр бацька, былы выпускнік Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, лесапатолаг і землямер, высокаадукаваны чалавек, што пісаў вершы на роднай беларускай мове (ён паходзіў з-пад Рэчыцы). Потым ад хранічнага недаядання памёр старэйшы брат. Ад няшчасцяў і пастаянных нястач цяжка захварэла маці, родныя мясціны якой пад Магілёвам былі ў той час пад нямецка-фашысцкай акупацыяй.

Спадзявацца на каго-небудзь не выпадала, чакаць дапамогі ў жорсткі ваенны час не даводзілася. Выйсце трэба было шукаць самастойна. А хлопцу было ўсяго чатырнаццаць год. І таму Аркадзь пасля сямігодкі паступіў у мясцовае рамеснае вучылішча сувязі. Там, па-першае, давалі 800 грамаў хлеба і вопратку. Па-другое, меркаваў атрымаць прафесію радыста і хутчэй стаць на ногі. Аднак жыццё перакрэсліла яго планы. Авалодаўшы ў дасканаласці азбукай Морзе, у 1943 годзе Аркадзь завербаваўся радыстам у пошукавую экспедыцыю і пакінуў вучылішча. Дырэктар не адпускаў яго, казаў, што з яго выйдзе добры майстра, і пасведчання аб нараджэнні і якой-небудзь даведкі не выдаў (метрыка так і згубілася ў вучылішчы, пазней з Ленінграда, дзе Аркадзь нарадзіўся 22 мая 1928 года, па запыту прыслалі яе дублікат).

Экспедыцыя займалася праектаваннем чыгунак у Сібіры, і Аркадзь адразу ж адправіўся з ёю ў Запаляр'е, дзе яны вялі вышукальныя работы для будаўніцтва чыгункі. Восем гадоў працаваў у палявых умовах, жывучы пераважна ў палатках.

Ён абышоў і аб'ездзіў усю Сібір ад Таймыра да Манголіі, ад Обі да Забайкалля, спазнаў яе суровасць і велічнае харáство. Шмат што ўбачыў, пачуў, шмат чаму навучыўся: як распальваць і падтрымліваць агонь у любы вецер, навальніцу і буран; як арыентавацца ў тундры, тайзе і стэпах; як перапраўляцца праз водныя перашкоды; як будаваць адносіны з самымі рознымі людзьмі; як наогул выжываць у складаных, часам неймаверных абставінах. Бо экспедыцыя была не зусім звычайнай. Яна падпарадкоўвалася ўстанове пад назваю "Желдорпроект ГУЛАГа МВД СССР". У складзе экспедыцыі, акрамя пастаянных спецыялістаў (начальніка, галоўных інжынера, геолага, геадэзіста і іншых — усяго каля дзесяці чалавек) былі рабочыя да 50—60 чалавек з ліку асуджаных па крымінальных справах альбо сасланых пад наглядам аднаго ўзброенага ахоўніка. Адзін сезон працавалі чачэнцы, якіх прымусова вывезлі з тэрыторыі Каўказа. Аркадзь блізка пазнаёміўся з гэтымі свабодалюбівымі людзьмі, смелымі і бясстрашнымі. І калі пачалася ў 1994 годзе чачэнская вайна, то ён выказаўся лаканічна і вычарпальна: "Глупства вялікае і яшчэ большае злачынства".

Нярэдка можна было пачуць, што ў такім-то лагеры сядзеў калісьці славуты маршал К. Ракасоўскі, у другім — не менш вядомы акцёр Г. Жжонаў, у трэцім — пісьменнік і г. д. У гэтых жа мясцінах, але па той бок калючага дроту і агароджы з кулямётнымі вышкамі адбываў свой дваццацігадовы тэрмін зняволення палітычны вязень Аляксандр Раковіч, кабінет якога як загадчыка лабараторыі будзе суседнім у корпусе Інстытута тэхнічнай кібернетыкі Акадэміі навук Беларусі пасля прыезду туды А. Закрэўскага ў 1971 годзе.

Аднойчы ў пасёлку каля Курэйкі, дзе адбываў некалі ссылку І. Сталін, работнікам экспедыцыі паказалі тую хату і расказалі пра яе гаспадыню, якая стала часовай жонкай будучага дыктатара, і іх сумеснага сына-сібірака. Убачанае, перажытае, шматлікія лагеры, здзекі з людзей, трагедыя народа наклалі свой адбітак на характар, паводзіны і жыццёвыя ўстаноўкі Аркадзя. Не магу не прыгадаць, як некалі вядомы чэшскі педагог Ян Амос Каменскі прапаноўваў уключыць у сістэму народнай адукацыі ў якасці апошняй яе ступені "акадэмію", навучанне ў якой мусіць заканчвацца абавязковым падарожжам па бацькаўшчыне і розных краінах свету. Мала чытаць дазволеныя кнігі, пісаў ён, "кніга — сляпы настаўнік". Будучыя навукоўцы і культурна-асветныя грамадскія дзеячы павінны сваімі вачыма бачыць свет, знаёміцца з ягоным парадкам, з навукай, культурай і асветай розных народаў. Свабоднае падарожжа, падкрэсліваў Каменскі, паглыбіць атрыманыя ў акадэміі веды і дасць маг-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Цвіце бэз.

Фота Віктара СТАВЕРА.

ЖУРНАЛІСТЫКА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

## ЯНЫ ВЫРАТАВАЛІ ГОНАР НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ДЭМАКРАТЫІ

Беларускае рэгулярнае кнігадрукаванне ў нашым стагоддзі адрадзілася спачатку за межамі Беларусі: першая выдавецкая суполка "Загляне сонца і ў наша ваконца", як вядома, узнікла ў траўні 1906 года па ініцыятыве беларускіх студэнтаў у Пецярбургу пры падтрымцы прафесара Браніслава Эпімах-Шыпілы. Гэтае ж выдавецтва заснавала першы навукова-літаратурны альманах, альбо нерэгулярны часопіс "Маладая Беларусь" (1912, № 1, 1913, №№ 2, 3). Поруч з сёння класічнымі творамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, іншых часткова "дазволеных" пісьменнікаў у былым Савецкім Саюзе, часопіс друкаваў творы "закрытых" бальшавікамі аўтараў — апавяданні Власта (Вацлава Ластоўскага), праграмны артыкул Антона Навіны (Луцкевіча) "На дарозе да новага жыцця", у якім абгрунтаваны нацыянальна-дэмакратычны прагноз беларускага дзяржаўнага і культурнага адраджэння.

Ні ў адным энцыклапедычным даведніку пакуль што не зафіксаваны дзве спробы адначасова часопіс "Маладая Беларусь". У 1922 годзе Бюро беларускіх студэнцкіх арганізацый у Маскве стварыла выдавецтва "Маладая Беларусь", якое за свой кошт выдала ў мінскім кааператыўным таварыстве "Адраджэнне" навукова-літаратурны зборнік "Маладая Беларусь. Сшытак першы". Ён жа, здаецца, быў і апошні. Памер — 83 старонкі. Подпіс — Рэдакцыйная калегія.

Пачынаецца зборнік зваротам "Ад выдавецтва "Маладая Беларусь", на жаль, без подпісаў і без пераліку сябровў гэтай выдавецкай суполкі. Мэта яе — развіццё культуры, навукі і нацыянальнай самасвядомасці беларусаў у расцярушанні, сабіранне іх у нацыянальныя арганізацыі. Між іншым, ёсць у звароце цікавая інфармацыя: "У аднэй толькі Маскве маецца цяпер каля 400 арганізаваных студэнтаў-беларусаў".

Зборнік складаецца з дзвюх частак — навуковай і літаратурнай. Першая частка пачынаецца артыкулам студэнта Пятроўскай (цяпер Ціміразеўскай) сельскагаспадарчай акадэміі ў Маскве, старшыні Беларускай культурна-навуковай асацыяцыі (існавала пры гэтай акадэміі з 14 лістапада 1920 да вясны 1923 года) Гаўрыла Гарэцкага "На новы шлях". Будучаму бацьку нашага ганаровага прэзідэнта Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчы-

(Заканчэнне на 5-й стар.).

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ВІЗІТ У ЛАТВІЮ

## ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР ЗАДАВОЛЕНЫ

Галоўным вынікам рабочага візіту ўрадавай дэлегацыі Беларусі на чале з прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам у Латвію, які адбыўся 15—16 мая, стала заключэнне шэрагу пагадненняў паміж дзвюма суседнімі краінамі. У Даўгаўпілсе былі падпісаны міжурадавыя пагадненні аб асноўных прынцыпах трансгранічнага супрацоўніцтва і аб супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе ў мытных справах. Было заключана таксама пагадненне паміж міністэрствамі ўнутраных спраў аб супрацоўніцтве ў сферы барацьбы з арганізаванай злачыннасцю, а Дзяржаўны камітэт пагранічных войск Беларусі і Дзяржаўная пагранічная ахова Латвіі дамовіліся аб правядзенні інжынерных і гідралагічных работ на беларуска-латвійскай дзяржаўнай граніцы.

У загараднай рэзідэнцыі "Сілене" Сяргей Лінг і кіраўнік латвійскага ўрада Гунтарс Крастс правялі перагаворы сам-насам за зачыненымі дзвярамі. На прэс-канферэнцыі ў Даўгаўпілсе беларускі прэм'ер паведаміў журналістам, што ў час перагавораў абмяркоўваліся галоўным чынам пытанні далейшага пашырэння эканамічнага супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі.

У час сустрэчы з журналістамі, адказваючы на пытанне аб адносінах Беларусі да становішча некарэннага насельніцтва ў Латвіі, Сяргей Лінг выказаў занепакоенасць тым, што з 80 тысяч беларусаў латвійскае грамадзянства пакуль атрымалі ўсяго 20 тысяч чалавек. Але ён лічыць, што і гэта праблема можа быць вырашана ў ходзе перагавораў і заключэння адпаведнага пагаднення аб абароне правоў нацыянальных меншасцей.

На заканчэнне паездкі прэм'еры прынялі ўдзел у цырымоніі ўстаноўкі першых пагранічных знакаў на беларуска-латвійскай дзяржаўнай граніцы ў раёне прапускнога пункта "Урбаны".

ЛЕПШ РАЗ УБАЧЫЦЬ

## ПАСОЛ АБ'ЯЗДЖАЕ БЕЛАРУСЬ

Ключавая роля ў аздараўленні беларускай эканомікі — за малым прадпрымальніцтвам. Пра гэта заявіў пасол ЗША у нашай рэспубліцы Дэніэл Спекхард на прэс-канферэнцыі ў Пінску, дзе пабываў у сярэдзіне мая. Абгрунтоўваючы свой вывад, пан Спекхард спаслаўся на вопыт Злучаных Штатаў, у эканоміцы якіх звыш 40 працэнтаў валавога нацыянальнага прадукту забяспечваюць фірмы з колькасцю працуючых да 100 чалавек.

Адказваючы на пытанне пра мэту візіту ў старажытны палескі горад, пасол сказаў, што па парадзе Аляксандра Лукашэнкі аб'язджае Беларусь, каб на месцах азнаёміцца з палітычнай і сацыяльна-эканамічнай сітуацыяй у краіне. Па яго словах, убачанае сведчыць, што беларусы пачынаюць усведамляць сябе асобамі, і гэта ўсяляе надзею на паспяховае пераадоленне імі сённяшніх цяжкасцей.

ЦАРКВА Ў КАЛОНІІ



У выхаваўча-працоўнай калоніі № 3 пад Віцебскам, дзе будзе ўзведзены храм у гонар Іаана Рускага, адбыліся асвячэнне месца будаўніцтва і закладка першага каменя ў фундамент будучага будынка. У гэтай цырымоніі прынялі ўдзел свяшчэннаслужыцелі Віцебска-Аршанскай епархіі і ўсе падлеткі-асуджаныя, што знаходзяцца ў калоніі.

НА ЗДЫМКУ: у час хрэснага ходу.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.

ЗАЯЎЛЕНА АФІЦЫЙНА

## БЕЛАРУСЬ ПРЫСЛУХОЎВАЕЦЦА ДА ДУМКІ СУСВЕТНАГА БАНКА

Наша краіна гатова карэкціраваць сваю дзяржаўную палітыку ў адпаведнасці з рэкамендацыямі экспертаў Сусветнага банка. Аб гэтым заявіў прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг у час рабочай сустрэчы з дырэктарам рэгіянальнага аддзела для Беларусі і Украіны Сусветнага банка Полем Сігельбаўмам. Іх гутарка адбылася 18 мая ў Мінску.

Як было адзначана на сустрэчы, гэтыя рэкамендацыі апошнім часам набываюць усё больш канкрэтны характар. Днямі Поль Сігельбаўм наведаў з візітам Віцебскую вобласць. Паводле яго слоў, гэта паездка садзейнічала лепшаму разуменню працэсаў, якія адбываюцца ў эканоміцы рэспублікі.

ДЭМАКРАТЫЯ І ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## ТРЫ ПРЭМІІ ЕЎРАСАЮЗА БЕЛАРУСАМ

У маі мінулага года, калі адзначалася 50-годдзе плана Маршала і 40-я гадавіна Рымскага дагавора, Еўрасаюз і ЗША ўстанавілі прэмію за прызнанне заслуг тых грамадскіх арганізацый і асоб, чыя дзейнасць накіравана на ўмацаванне міру, дэмакратыі, правоў чалавека і адкрытай рыначна арыентаванай эканомікі ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, СНД і Манголіі. Памер прэміі 20 тысяч долараў ЗША.

Сёлета на гэтую прэмію было вылучана 140 кандыдатур, з якіх выйшлі пераможцамі 50, сярод іх і тры прадстаўнікі Беларусі: старэйшая праваабарончая арганізацыя Беларускі Хельсінкскі камітэт, грамадскі рух "Хартыя-97" і вядомы юрыст і праваабаронца Міхаіл Пастухоў, які працуе ў Цэнтры прававой абароны СМІ пры Беларускай асацыяцыі журналістаў. Старшыня БХК Таццяна Процька 18 мая была запрошана на ўрачыстую цырымонію ўзнагароджання з удзелам прэзідэнта ЗША і прэм'ер-міністра Вялікабрытаніі ў Лондан. А прадстаўнікі "Хартыі-97" і Міхаіл Пастухоў атрымалі ўзнагароды ў Мінску з рук паслоў ЗША і Вялікабрытаніі.

ВОЗ І БЕЛАРУСЬ

## НАШЫ ДАМАГЛІСЯ

У Жэневе прайшла 51-я сесія Сусветнай асамблеі аховы здароўя, у рамках якой адзначаўся паўвекавы юбілей ВОЗ — адной з самых значных міжнародных арганізацый.

У рабоце форуму прымала ўдзел наша дэлегацыя, якую ўзначальваў міністр аховы здароўя Ігар Зелянкевіч. Беларусам удалося дабіцца права прадстаўніцтва нашай краіны ў Генеральным камітэце асамблеі.

А гэта адкрыла новыя перспектывы для супрацоўніцтва ў галіне аховы здароўя.

Ігар Зелянкевіч выступіў з ініцыятывай аб правядзенні ў Беларусі міжнароднай канферэнцыі пад эгідай ВОЗ па постчарнобыльскай праблематыцы.

Паміж ВОЗ і японскім фондам Сасакавы падпісана пагадненне аб ажыццяўленні ў нашай краіне праекта, што тычыцца дыягностыкі і лячэння паталогіі шчытападобнай залозы. Для пачатку яго рэалізацыі японцы выдзелілі для Беларусі адзін мільён долараў.

У ЦЭНТРЫ ЛОНДАНА

## КАПСУЛА З БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛЁЙ

У ходзе святкавання 53-й гадавіны перамогі над гітлераўскай кааліцыяй у другой сусветнай вайне ў цэнтры Лондана закладзены абеліск.

Ва ўрачыстасцях з нагоды Дня Перамогі і адкрыцця мемарыяла прынялі ўдзел міністр абароны Вялікабрытаніі Джордж Робертсан, міністр замежных спраў Расійскай Федэрацыі Яўген Прымакоў, кіраўнікі дыпламатычных місій краін СНД.

У ходзе цырымоніі адкрыцця абеліска пасол Рэспублікі Беларусь у Вялікабрытаніі Уладзімір Шчасны перадаў кіраўніцтву фонду "Мемарыял савецкім грамадзянам, якія загінулі ў гады другой сусветнай вайны" капсулу з беларускай зямлёй, сабранай нашымі суайчыннікамі-ветэранамі з палёў бітваў. Прысутныя ўшанавалі памяць ахвяр фашызму мінутай маўчання.

МЫ ТАКСАМА МОЖАМ

## АПЕРАЦЫЯ НА АДКРЫТЫМ СЭРЦЫ

Першая аперацыя на адкрытым сэрцы з апаратам штучнага кровазвароту праведзена ў Гомельскім абласным клінічным кардыялагічным дыспансеры.

Трынаццацігадовага хлопчыка з прыроджаным парокам сэрца прааперыраваў галоўны кардыяхірург Міністэрства аховы здароўя рэспублікі Беларусь прафесар Юрый Астроўскі. Асістэнтамі яго былі мясцовыя медыкі.

ДОБРУШСКІ ФАРФОР



Чайны набор, выпушчаны ў акцыянерным таварыстве "Добрушскі фарфоравы завод", адрозніваецца ад ранейшых не толькі знешнім выглядам, але і тэхналогіяй вырабу, якая прадугледжвае танкасценнае выкананне ўсіх прадметаў набору. Навінкай стаў і чайна-кававы набор з дэколлю, на якім з'явіліся віды горада. Ён атрымаў назву "Добруш" і стане цяпер фірменным вырабам прадпрыемства, якога да гэтага часу не было. Распрацаваны набор да 20-годдзя прадпрыемства, якое будзе адзначацца ў канцы года.

НА ЗДЫМКУ: новыя наборы аглядвае мастак-скульптар Вольга АЛЁШЫНА.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.

ПРАВІНЦЫЯ

## БЕСПРАЦОЎЕ Ў ПІНСКУ

Па стану на 1 красавіка ў Пінску зарэгістраваны 1 302 беспрацоўныя. Пры садзейнічанні Цэнтра занятасці насельніцтва з пачатку года працаўладкавана 1 660 чалавек, а дапамогу па беспрацоўі атрымалі 548 чалавек.

Патрэбнасць у работніках для замяшчэння свабодных месцаў складае на сённяшні дзень 399 чалавек, або на адно рабочае месца прэтэндуюць 3 чалавекі.

КРЫМІНАЛ

## БАРАНАВІЦКАЯ ПАДПОЛЬНАЯ

Найсучаснейшую міні-друкарню па вытворчасці фальшывых дакументаў выявілі праваахоўныя органы рэспублікі ў Баранавічах. Падпольны цэх быў забяспечаны не толькі унікальнай камп'ютэрнай тэхнікай, але і іншымі не менш каштоўнымі атрыбутамі: чыстымі бланкамі тэхпашпартоў, пячаткамі натарыяльных кантор, рэгістрацыйных органаў ДАІ. Па сведчанні аператыўнікаў, злачынцы маглі вырабіць дакументы, якія амаль немагчыма адрозніць ад сапраўдных. Вядзецца следства.

ЭКАЛОГІЯ І ХВАРОБЫ

## КУДЫ ПАДЗЕЦЦА АЛЕРГЕТЫКАМ?

Да дзесяці працэнтаў насельніцтва Беларусі пакутуе на алергічныя захворванні, лічаць беларускія медыкі. Акрамя таго, па іх сцвярджэнні, дзве трэці нашых суграмадзян хаця б раз у жыцці зведваюць на сабе праяўленні алергіі.

Не суцяшаюць і прагнозы: спецыялісты заяўляюць, што захворванні гэтай катэгорыі маюць стойкую і няўхільную тэндэнцыю да росту. Ужо сёння вядома да дваццаці тысяч алергенаў — ад поўсці жывёл і такога, здавалася б, бяскрыўднага фрукта, як апельсін, на некаторыя лекі. Ды і экалагічная сітуацыя не спрыяе зніжэнню падобных захворванняў.

ВЫСТАВА

## РАЗНАЯ ІКОНА

Унікальную магчымасць убачыць разную драўляную ікону, традыцыя вырабу якіх ідзе ад старажытнай Візантыі, прадаставіў мінчанам і гасцям сталіцы Нацыянальны музей гісторыі і культуры. З благаславення Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсёе Беларусі ў музеі адкрылася экспазіцыя работ самабытных гомельскіх мастакоў Шчытавых.

# СІБІРСКАЯ ЗАГАРТОЎКА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

чымасць рабіць самастойныя цікавыя высновы.

Праца Аркадзя радыстам, звязаная з бясконцымі раз'ездамі па бяскрайніх прасторах Сібіры, Поўначы і Далёкага Усходу, сталася жыццёвымі універсітэтамі, сапраўднай акадэміяй ведаў у многіх галінах: геаграфіі, гісторыі, эканоміцы, сацыяльна-палітычным укладзе многіх груп насельніцтва тых гадоў.

Аркадзь зрабіў выснову: трэба вучыцца далей. Ён і вучыўся без адрыву ад працы.

Калі экспедыцыя працавала ў мангольскіх стэпах у 1948 годзе, Аркадзь расшукаў ва Улан-Батары рускую школу і даведаўся, што экзамены за сярэднюю адукацыю можна здаць экстэрнам. Але экзамены пачынаюцца літаральна праз два дні. Выпрабаванне ўдалося: Аркадзь атрымаў атэстат сталасці. Першы. А другі атэстат ён атрымаў у 1951 годзе ў Ігарцы, дзе размяшчаўся штаб экспедыцыі, калі цвёрда вырашыў паступаць у інстытут і надарылася магчымасць больш сур'ёзна і грунтоўна засвоіць школьную праграму і падрыхтавацца да ўступных экзаменаў.

* * *

"Важныя моманты ў жыцці — выпадковыя", — сцвярджае Аркадзь Дзмітрыевіч з усмешкай і звыклай іроніяй. Гэта да таго, што здарылася з самалётам, які ляцеў па маршруту Ігарка — Мурманск і на якім ён накіроўваўся ў Маскву праз Мурманск паступаць у інстытут у 1951 годзе. Самалёт задыміў хутка пасля ўзлёту і вярнуўся назад у Ігарку. Прапанавалі жадаючым ляцець у Краснаярск. Там Аркадзь перасеў на поезд, папярэдне ўзяўшы ў выканкоме даведку, што ён абітурыент, бо без яе нельга было выехаць з-за велізарнай чаргі ў касах, але даехаў толькі да Томска: у даведцы памылкова запісалі замест Масквы гэты горад. Томск яму спадабаўся. Падумалася: "А чаго ехаць у Маскву?" Падаў дакументы і ў політэхнічны, і ва універсітэт. У апошнім хлопцы здаліся яму больш развітымі і ацёсанымі, а дзяўчаты прыгажэйшымі. Паступіў на фізічны факультэт універсітэта. Фізіка была ў тыя гады ва ўсіх на слыху, ёю захапляліся, быў вялікі конкурс. У 1953 годзе, калі стаў адчувацца востры дэфіцыт спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй па радыёфізіцы і электроніцы, у шэрагу вядучых ВНУ, і ў Томскім дзяржуніверсітэце ў тым ліку, арганізаваўся радыёфізічны факультэт. Аркадзь без роздуму перавёўся туды. З 1954 група аматараў, сярод іх і Аркадзь, зацікавілася кібернетыкай, тэорыяй інфарматыкі. Навокал бурлілі дыскусіі, часопіс "Большевик" друкаваў артыкулы аб буржуазнай навуцы — кібернетыцы, але гэта не магло стрымаць цікавасці маладых.

У 1956 годзе Аркадзь бліскуча скончыў Томскі дзяржаўны універсітэт па спецыяльнасці фізік-радыёэлектронік і быў залічаны ў аспірантуру. Пачалося яго ўзыходжанне па навуковых прыступках: ад артыкула — да фундаментальных манаграфій, ад аспіранта — да доктара навук з усесаюзным імем, якога ведаюць спецыялісты ў многіх краінах свету.

У Вялікай Савецкай Энцыклапедыі (трэцяе выданне, 26 том) сярод самых выдатных і знакамітых выпускнікоў ТДУ, найстарэйшага ВНУ Сібіры і Далёкага Усходу (заснаваны ў 1880, адкрыты 22 ліпеня 1888) названы прозвішчы яго былых студэнтаў: фізіка-атамшчыка А. Красіна і А. Закрэўскага, росквіт навуковай дзейнасці якіх звязаны з Беларуссю. Томскі універсітэт Аркадзь выбраў больш інтуітыўна, чым свядома, але не прамахнуўся і ніколі не шкадаваў аб сваім выбары, бо гісторыя першага сібірскага універсітэта вельмі багатая. Дарэчы, яму прысвечаны мастацкі твор — раман Б. Тучына пад назваю "Хроника Томского университета" (Новасібірск, 1980). У Томск з'язджаліся вучыцца ад Сахаліна да Урала. Аркадзь любіў бываць у яго музеях і батанічным садзе, старэйшым у Сібіры. Ён літаральна быў зачараваны архітэктурай палацаў і старадаўніх асабнякоў з разнымі ўзорамі, у тым ліку дома пісьменніка В. Шышкова, былога купецкага горада Томска.

Адначасова з вучобай у аспірантуры стаў працаваць выкладчыкам у студэнтаў, прапагандаваць сярод іх ідэі і метады кібернетыкі. Падабраўшы групу энтузіястаў, стаў дабівацца выдзялення для універсітэта фондаў на атрыманне вылічальнай машыны "УРАЛ-1" з хуткадзеяннем 100 аперацый у секунду, серыйны выпуск якой толькі пачаўся ў Пензе. Брыгада з 4 дыпломнікаў першага выпуску кібернетыкаў ТДУ на чале з М. Торапавым, вучнем Аркадзя Дзмітрыевіча, зараз вядучым навуковым супрацоўнікам Інстытута тэхнічнай кібернетыкі, у 1958 годзе ўстанавіла ў Томскім універсітэце і наладзіла першую ў Сібіры ЭВМ "УРАЛ-1". Аркадзь прапанаваў некалькі карысных і эфектных удасканаленняў працэсара, якія значна павышалі хуткадзеянне гэтай машыны. Ён здзіўляў студэнтаў і калег здольнасцю хутка і амаль беспамылкова састаўляць праграмы для рашэння розных задач на ЭВМ.

У пацвярджэнне яго вучні з усмешкай успамінаюць да сённяшніх дзён наступны выпадак. Іх, групу студэнтаў радыёфака Томскага універсітэта, якія спецыялізаваліся па кібернетыцы, Аркадзь Дзмітрыевіч прывёз у 1956 годзе на практыку ў Вылічальны цэнтр Маскоўскага універсітэта. Знаёміліся з вялікай па тым часе ЭВМ "Стрела" (6 000 электронных лямп, ёмкасць аператыўнай памяці — 2 048 слоў, хуткадзеянне — 2 000 аперацый у секунду). Матэматыкі, што карысталіся паслугамі "Стрелы", скардзіліся на цяжкасці саставулення і наладкі праграм для яе. Аркадзь, прагледзеўшы набор машынных каманд, заключыў умову, што назаўтра ён прынясе складзеную ім праграму вылічэння значэнняў алгебраічнага мнагаскладу n-ступені па схеме Горнера, якая адпрацуе без адзінай памылкі з першага ж запуску. Так яно і здарылася, на здзіўленне прысутных маскоўскіх матэматыкаў і студэнтаў-практыкаў з Томска, заклад быў выйграны (бутэлька таго напою, які вельмі цаніў У. Чэрчыль і які прыйшоўся даспадобы томскім кібернетыкам). Такія вось жарты былі ў радыёфізікаў.

Пачалі выходзіць з друку артыкулы Аркадзя Закрэўскага. Першая праца ў прэстыжным часопісе "Доклады АН СССР" (серыя "Математика") апублікавана ў 1959 годзе па рэкамендацыі акадэміка С. Собалева, які ў 1957 годзе быў прызначаны дырэктарам Інстытута матэматыкі Сібірскага аддзялення АН СССР і ўжо ў 45-гадовым узросце быў тройчы лаўрэатам Дзяржпрэміі СССР, і прысвечана павышэнню надзейнасці лагічных прыладаў на аснове выкарыстання карэкціруючых кодаў.

Паспяхова абараніўшы ў 1960 годзе кандыдацкую дысертацыю "Матрычны метад сінтэзу рэлейных схем" у галіне фізіка-матэматычных навук, Аркадзь адным з першых у СССР прадоўжыў работу па тэорыі, метадах аўтаматызацыі сінтэзу дыскрэтных вылічальных і кіравальных прыладаў на базе ЭВМ і алгарытмічнай мовы апісання названых прыладаў. У выніку выйшла з друку першая яго манаграфія "Алгоритмический язык ЛЯПАС и автоматизация синтеза дискретных автоматов" (1966), па якой ён у наступным годзе абараніў доктарскую дысертацыю ў Інстытуце аўтаматыкі і тэлемеханікі АН СССР у Маскве.

Мова ЛЯПАС была значна больш эфектыўнай і зручнай за існуючыя пры рашэнні задач сінтэзу дыскрэтныя прылады на ЭВМ, да яе праяўлялася ўсеагульная цікавасць. Таму спачатку ў Маскве, а потым у ЗША ў 1969 годзе ў перакладзе на англійскую мову выдаецца кніга "Алгоритмический язык для представления алгоритмов синтеза релейных устройств" пад рэдакцыяй членакарэспандэнта АН СССР М. Гаўрылава, вядомага спецыяліста па тэорыі аўтаматычнага кіравання, і А. Закрэўскага. У прадмове да выдання выказваецца рэкамендацыя выкарыстоўваць ЛЯПАС побач з іншымі міжнароднымі мовамі праграміравання, такімі, як АЛГОЛ, КОБОЛ, ФОРТРАН. Мова ЛЯПАС трапляе ў шматлікія слоўнікі і энцыклапедычныя даведнікі па кібернетыцы і інфарматыцы. У 1971 годзе да Аркадзя Дзмітрыевіча прыходзіць новы поспех: публікуецца ў Маскве адна з галоўных яго прац — капітальная манаграфія "Алгоритмы синтеза дискретных автоматов". Газета "Правда" змяшчае фота аўтара і артыкул аб яго навуковых дасягненнях, стварэнні першай у СССР сістэмы аўтаматычнага праграміравання лагічных задач для універсальных ЭВМ, якая дазваляе павялічыць прадукцыйнасць працы праграмістаў у некалькі разоў. Нечакана адклікаюцца родныя з Рэчыцы, Мазыра, Магілёва, Мінска. У гэтыя гады ён кіруе лабараторыяй лічыльна-рашальных прыладаў Сібірскага фізіка-тэхнічнага навукова-даследчага інстытута і з'яўляецца прафесарам, загадчыкам кафедры матэматычнай логікі і праграміравання Томскага універсітэта. Яму можна пазайздросціць: бліскучая навуковая кар'ера! Яму ўдалося дасягнуць мэты, аб якой марыў бацька і мама-настаўніца — стаць прафесарам.

У Аркадзя Дзмітрыевіча наладзіліся моцныя сувязі з Новасібірскім акадэмгарадком, яго Інстытутам матэматыкі і Вылічальным цэнтрам, з Інстытутам кібернетыкі Украінскай акадэміі навук і Інстытутам электронікі і вылічальнай тэхнікі Латвійскай акадэміі навук, з многімі маскоўскімі навуковымі цэнтрамі.

Ды і ў самім Томску ў розных навуковых установах ішла напружаная пошуковая праца, праводзіліся цікавыя даследаванні, некалькі ўстаноў былі на перадавых пазіцыях айчыннай і сусветнай навукі. У гэты перыяд, у 1971 годзе, тагачасны прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі М. Барысевіч запрасіў А. Закрэўскага пераехаць у Мінск на працу ў Інстытут тэхнічнай кібернетыкі. Гэту прапанову Аркадзь Дзмітрыевіч прыняў, ведаючы, што выхаванцы томскай навуковай школы А. Красін, Ю. Базілеўскі і іншыя ўжо працуюць у навуковых арганізацыях Мінска, Кіева, Масквы. У 1971 годзе Аркадзь Дзмітрыевіч пераязджае ў Беларусь, на радзіму сваіх памерлых заўчасна бацькоў. У 20-я—30-я гады іх шлях на Усход, у Сібір, пралягаў праз Ленінград, Падмаскоў'е, дзе ў горадзе Туме Аркадзь хадзіў у так званы падрыхтоўчы клас у 1934 годзе. Адваротны шлях на захад быў больш хуткім, вяртаўся Аркадзь Дзмітрыевіч прызнаным спецыялістам у галіне вылічальнай тэхнікі, тэорыі канечных аўтаматаў, сістэмнага праграміравання, таленавітым навукоўцам, поўным сіл і задум па здзяйсненні новых даследаванняў і праектаў.

* * *

У Інстытуце тэхнічнай кібернетыкі Акадэміі навук Беларусі ён арганізаваў лабараторыю сістэмнага праграміравання і лагічнага сінтэзу, касцяк якой склалі яго здольныя вучні, кандыдаты фізіка-матэматычных навук А. Уткін, М. Торапаў, Ю. Патосін і тады яшчэ маладшыя навуковыя супрацоўнікі, што сталі кандыдатамі навук у Мінску, Д. Чарамісінаў Л. Піхтава-Чарамісінава, В. Томашаў. Усе яны, дарэчы, карэнныя сібіракі і прыехалі на Беларусь услед за сваім паважаным настаўнікам з Томска. Шчаслівым павінен адчуваць сябе чалавек, якога любяць удзячныя вучні, а створаны ім калектыў з'яўляецца стабільным і з ранейшым захапленнем працуе над вырашэннемі цікавых задач ва ўмовах эканамічнай, сацыяльнай і іншай неакрэсленасці, калі катастрафічна скарацілася бюджэтнае фінансаванне навуковых устаноў, а па суседству ў банку аддзеламі загадваюць кандыдаты навук з пакінутых прыродазнаўчых і тэхнічных НДІ. З'ява стабільнасці калектыву лабараторыі тым больш здаецца фенаменальнай, што супрацоўнікі лабараторыі адносяцца ў пераважнай большасці да сістэмных праграмістаў, якія ва ўсім свеце з'яўляюцца найбольш высокааплатнай катэгорыяй праграмістаў, і іх бяруць нарасхват усюды. Ды яшчэ ў галіне аўтаматызацыі праектавання ў мікраэлектроніцы, элементнай базы вылічальнай тэхнікі (вялікіх і звышвялікіх інтэгральных схем) і яе самай важнай і галоўнай часткі — вузлоў і блокаў кіравання. У той жа час кандыдаты навук, падрыхтаваныя Аркадзем Дзмітрыевічам, займаюць вядучае становішча ў іншых лабараторыях інстытута і не парываюць сувязей са сваім навуковым кіраўніком.

Пазнаёміўшыся бліжэй з супрацоўнікамі лабараторыі, з ветэранамі і больш маладымі, я прыйшоў да высновы, што прычына згуртаванасці, дружбы, стабільнасці — у незвычайнай прыцягальнасці, абаяльнасці асобы Аркадзя Дзмітрыевіча, які валодае шэрагам прыгожых чалавечых якасцей, што прываблiваюць людзей і робяць натуральным прызнанне за ім пазіцыі лідэра. Аркадзь Дзмітрыевіч — лідэр па характары, ён не любіць уступаць ні ў якой справе. Ён будзе паглыбляць веды, удасканальваць іх, настойліва працаваць галавой, пакуль не даб'ецца першынства.

У 1972 годзе Аркадзь Дзмітрыевіч абраны членам-карэспандэнтам Акадэміі навук Беларусі. Так здарылася, што ён у інстытуце доўгія гады быў па навуковаму рангу галоўным чалавекам, адзіным членам-карэспандэнтам (акадэміка ніводнага з дня ўтварэння ў 1965 годзе ў інстытуце не было). У яго пыталіся парадаў, ад яго чакалі адказу на надзённыя і важныя пытанні развіцця напрамкаў сучаснай кібернетыкі і інфарматыкі. Ён фармуляваў, раіў, выконваў, распрацоўваў і, здаецца, ні разу не здрадзіў асноўным сваім прынцыпам: добрасумленнасці, навуковай грунтоўнасці, высокай патрабавальнасці да якасці навуковых прац, кампетэнтнасці.

Да высокіх адміністрацыйных пасад не імкнуўся, улады не прагнуў, не жадаў неяк уціскаць, занявольваць людзей, абмяжоўваць іх творчыя памкненні. Ён хацеў больш выявіцца ў навуковых працах, у манаграфіях. Гэта яму ўдалося. Будучы беспартыйным, не траціў марна часу на розныя кампаніі і мерапрыемствы, а ўдзяляў шмат увагі лабараторнаму семінару, дзе супрацоўнікі вучыліся лагічна мысліць, выказвацца дакладна, абгрунтавана і зразумела.

Навуковая актыўнасць у А. Закрэўскага была высокай. Пад яго кіраўніцтвам у ІТК разгарнуліся даследаванні па метадах рашэння логіка-камбінаторных задач у галіне праектавання дыскрэтных аб'ектаў, стварэнні сістэм аўтаматызацыі праграміравання, арыентаваных на логіка-камбінаторныя задачы, развіцці тэорыі аўтаматаў і аўтаматызаваных сістэм лагічнага сінтэзу складаных лічбавых прыладаў для патрэб мікраэлектронікі і вытворчасці вылічальнай тэхнікі ў Беларусі. Вынікі даследаванняў і рэалізацыі дзеючых праграмных комплексаў адлюстраваны ў манаграфіях "Логические уравнения" (1975). "Синтез асинхронных автоматов на ЭВМ" (1975), "Система программирования ЛЯПАС-М" (1978), "Логический синтез каскадных схем" (1981). Апошнюю з названых манаграфій па праву можна аднесці да галоўных здзяйсненняў нястомнага даследчыка, бо яна стала настольнай кнігай многіх спецыялістаў. У ёй ён прапанаваў матрычны апарат для лагічнага аналізу і сінтэзу дыскрэтных прыладаў на базе праграміруемых лагічных матрыц.

У апошнія два дзесяцігоддзі Аркадзь Дзмітрыевіч засяроджаны на вырашэнні праблем тэарэтычных асноў найноўшых інфармацыйных тэхналогій, інтэлектуальных сістэм праектавання і распазнавання, аховы інфармацыі, метадаў штучнага інтэлекту. Ім прапанавана мова апісання паралельных працэсаў, распрацаваны метады верыфікацыі, мадэлявання і рэалізацыі паралельных алгарытмаў, прынцыпы арганізацыі і функцыянавання распазнавальных экспертных сістэм, метады дэдуктыўнага і індуктыўнага вываду.

Трэба адзначыць, што артыкулы пра тэорыю аўтаматаў для Беларускай 12- і 18-томнай энцыклапедыі даручаліся толькі Аркадзю Дзмітрыевічу. Працы А. Закрэўскага цытуюцца ў вялікай колькасці айчынных і замежных выданняў. У яго рэпутацыя буйнога вучонага з высокай зрудыцыяй і шырокім кругаглядам.

Аркадзь Дзмітрыевіч плённую навуковую дзейнасць спалучае з педагагічнай. Ён распрацаваў і чытаў шмат цікавых курсаў лекцый для студэнтаў і аспірантаў. Больш 30 кандыдатаў навук, чатыры з якіх абаранілі доктарскія дысертацыі, лічаць яго настаўнікам навуковай школы лагічнага праектавання ў ІТК НАН Беларусі, ТДУ, а таксама ў Севастопальскім прыборабудаўнічым інстытуце.

Аркадзь Дзмітрыевіч быў членам бюро аддзялення фізіка-тэхнічных навук АН Беларусі, старшынёй Беларускай тэрытарыяльнай групы Нацыянальнага камітэта СССР па аўтаматычнаму кіраванню, а таксама камісіі лагічнага праектавання дыскрэтных сістэм навуковага савета АН СССР "Кібернетыка" на чале з акадэмікам А. Бергам, многія гады нязменна кіраваў цікавым семінарам "Філасофскія праблемы кібернетыкі". Аркадзь Дзмітрыевіч выступаў перад аспірантамі, у дыскусіях па філасофскіх праблемах кібернетыкі і трымаўся думкі аб яе вялікіх магчымасцях нават у творчай, інтэлектуальнай сферы. Нярэдка ў такіх дыскусіях прыгожа перамагаў артадаксальных філосафаў. У газеце "За советскую науку" 28 студзеня 1971 года, гаворачы аб перспектывах выкарыстання ЭВМ для рашэння лагічных задач (праектаванне саміх ЭВМ, выбар аптымальнага ходу ў шахматнай гульні і процьма іншых задач), ён пісаў: "Ведущие шахматисты нашего времени уже не сомневаются в том, что ЭЦВМ в принципе может одержать победу над человеком (конечно, при условии, что человек "объяснит" ей, как это сделать, то есть составит для нее программу)". І меў рацыю, бо ЭВМ стала перамагаць нават чэмпіёна свету. Сваімі працамі Аркадзь Дзмітрыевіч дапамагае рабіць рэальным рашэнне падобных складаных задач. І зараз ён старшынствуе і ўваходзіць у склад праграмных і арганізацыйных камітэтаў шэрагу міжнародных канферэнцый, школ і сімпозіумаў, кіруе гарадскім навуковым семінарам. Аркадзь Дзмітрыевіч — старшыня праграмнага камітэта міжнароднай канферэнцыі па аўтаматызацыі праектавання дыскрэтных сістэм, у тым ліку вялікіх і звышвялікіх інтэгральных схем, якая двойчы праводзілася ў Мінску (1995, 1997) і стала традыцыйнай. Гэта дабаўляе прэстыжу і гонару дзяржаве, калі прыязджаюць буйныя спецыялісты з многіх краін абмяркоўваць актуальныя праблемы развіцця кібернетыкі і інфарматыкі.

Яго высокую, імклівую постаць можна сустрэць з вялікім рукзаком у турыстычным паходзе, на лыжні сярод калег і вучняў, ажыўленых, бадзёрых, аптымістычна настроеных. Уласцівыя яму жыццёвая мудрасць, стрыманасць, ураўнаважанасць, выхаванасць, самастойны погляд на падзеі прыцягваюць да яго людзей. За дабрыню і вытрымку, сапраўдную інтэлігентнасць і глыбокія веды Аркадзь Дзмітрыевіч Закрэўскі карыстаецца ў супрацоўнікаў павагай і любоўю. Непадробнай, шчырай.

**Мікола САВІК.**

З ГІСТОРЫІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# АКУПАЦЫЯ

## 3. ЗАХАВАЦЬ І ВЫВЕЗЦІ Ў РЭЙХ

З пісьма генеральнага камісара Беларусі фон Кубэ Розенбергу ад 29 верасня 1941 года: "У Мінску знаходзіўся вялікі, часткова вельмі каштоўны збор прадметаў мастацтва і карцін, якія амаль поўнасцю вывезены з горада. Па загаду рэйхсфюрэра СС рэйхслейтэра Генрыха Гімлера большасць карцін — часткова ўжо пасля майго ўступлення на пасаду — была ўпакавана эсэсаўцамі і адпраўлена ў Германію. Размова ідзе пра мільённыя каштоўнасці, канфіскаваныя ў генеральнай акрузе Беларусі. Карціны павінны быць пасланы ў Лінц і Кёнігсберг...

Па сведчанні аднаго маёра з 707-й дывізіі, які перадаў мне сёння рэшткі мастацкіх каштоўнасцей, эсэсаўцы аддалі астатнія карціны і прадметы мастацтва — сярод якіх былі найкаштоўнейшыя палотны і мэбля XVIII і XIX стагоддзяў, вазы, вырабы з мармуру, гадзіннікі і г. д. — на далейшае разграбленне вермахту. Генерал Штубенраўх захапіў з сабой частку гэтых каштоўных рэчаў з Мінска на фронт. Зондэрфюрэры, прозвішчы якіх мне пакуль не далажылі, павезлі тры грузавікі з мэбляй, карцінамі і прадметамі мастацтва, не пакінуўшы квітанцыі. Я загадаў высветліць, з якіх яны часцей, каб пакараць вінаватых за грабяжы.

З астаткаў тутэйшыя ўстановы вермахта і СС узялі без майго дазволу таксама іншыя прадметы і карціны, якія яшчэ могуць быць знойдзены ў Мінску.

Прашу накіраваць сюды члена НСДАП мастака Вілі Шрынгера (Берлін, Хазенхэйдэ, 94) для рэстаўрацыі карцін, часткова бяссэнсава пашкоджаных нажавымі ўдарамі, каб пад яго наглядам выратаваць тое, што яшчэ можна выратаваць. На жаль, моцна пашкоджаны ці знішчаны таксама каштоўныя вазы, фарфор, шафы і стыльная мэбля XVIII стагоддзя. Увогуле, размова ідзе аб каштоўнасцях цаной мільёны марак.

Я прашу, каб міністэрства па справах акупіраваных усходніх абласцей звярнулася да кіраўнічых устаноў вермахта, з тым каб у будучыні падобнае знішчэнне было спынена, а вінаватыя былі цяжка пакараны.

Музей першабытнай гісторыі таксама цалкам спустошаны. Геалагічнае аддзяленне аграблена, з яго выкрадзены каштоўныя і паўкаштоўныя камяні.

Ва універсітэце бяссэнсава знішчаны ці расцягнуты прыборы коштам сотні тысяч марак. Магчыма вам, глыбокапаважаны пан рэйхслейтэр, трэба было б паведаміць пра ўсё гэта фюрэру. І без таго бедная Беларусь пацярпела з прычыны такіх дзеянняў цяжкую страту. Магчыма, у Ленінград і Маскву, а таксама ў старадаўнія культурныя гарады Украіны будуць загадзя накіраваны эксперты для кіраўніцтва падобнымі мерапрыемствамі, інакш цывільная адміністрацыя сустрэне такія спусташэнні ўсюды".

Прапанова В. Кубэ аб накіраванні спецыяльных экспертаў для кіраўніцтва разграбленнем культурных каштоўнасцей на акупіраваных тэрыторыях была пачута. Аб гэтым сведчыць распараджэнне міністэрства па справах акупіраваных абласцей рэйхскамісарам Остланда і Украіны аб захаванні культурных каштоўнасцей для вывазу іх у Германію ад 7 красавіка 1942 года. У ім гаворыцца: "І. Улік і аднолькавую апрацоўку даных аб культурных каштоўнасцях, даследчых матэрыялах і навуковых матэрыялах з бібліятэк, архіваў, навукова-даследчых інстытутаў, музеяў і гэтак далей, знойдзеных у грамадскіх, царкоўных і прыватных памяшканнях, я даручыў аператыўнаму штабу Розенберга ў акупіраваных абласцях (спецыяльны штаб Розенберга, які займаўся разграбленнем мастацкіх каштоўнасцей на акупіраваных тэрыторыях. — **М. Б.**). Аператыўны штаб, як зноў адзначаецца ва ўказе фюрэра ад 1 сакавіка 1941 года, пачынае сваю работу сумесна з панам генерал-кватэрмайстрам арміі непасрэдна ўслед за заняццем вобласці дзеючымі часцямі арміі і праводзіць яе пасля арганізацыі цывільнага ўпраўлення сумесна з адпаведным рэйхскамісарам да яе заканчэння. Усе інстанцыі майго ведамства прашу шырока падтрымліваць упаўнаважаных аператыўнага штаба пры правядзенні імі ўсіх мерапрыемстваў і прадстаўляць ім усе неабходныя звесткі, у прыватнасці, аб тым, у якой ступені ўлічаны прадметы на тэрыторыі акупіраваных абласцей і ці вывезены яны з месца іх знаходжання і дзе яны знаходзяцца ў гэты час.

Накіраваная на захаванне прадметаў культуры дзейнасць дапускаецца толькі ў тым выпадку, калі яна праводзіцца сумесна з аператыўным штабам рэйхслейтэра Розенберга. Аператыўны штаб павінен пастаянна інфармавацца аб характары і аб'ёме сабраных звестак, намечаных работ і мерапрыемстваў.

Усе інстанцыі майго ведамства павінны ўлічваць прадметы ўказанага віду толькі праз аператыўны штаб рэйхслейтэра Розенберга і ўстрымлівацца ад самавольных дзеянняў.

ІІ. У асоба выключных выпадках для прадухілення магчымай небяспекі (разбурэнне будынкаў, дзеянні праціўніка, уплыў надвор'я) могуць быць неадкладна прыняты меры па захаванню і транспарціроўцы прадметаў у надзейнае месца. Ва ўсіх выпадках належыць неадкладна пісьмова інфармаваць мой аператыўны штаб.

Рашэнне аб правядзенні надзвычайных мер прымаюць імперскі і генеральныя камісары сумесна з упаўнаважаным генеральнага штаба..."

А вось і тэкст згаданага вышэй указа Гітлера ад 1 сакавіка 1942 года аб паўнамоцтвах Розенберга па канфіскацыі і выкарыстанні культурных і навуковых каштоўнасцей у акупіраваных усходніх абласцях: "Яўрэі, франка-масоны і блізкія ім ідэалагічныя праціўнікі нацыянал-сацыялізму з'яўляюцца віноўнікамі цяперашняй вайны, накіраванай супраць Германскай імперыі. Планамерная ідэалагічная барацьба з гэтымі сіламі з'яўляецца неабходнай задачай ваеннага часу. Таму я даручыў рэйхслейтэру Альфрэду Розенбергу выканаць гэтае заданне па дамоўленасці з начальнікам вярхоўнага камандавання ўзброеных сіл. Яго аператыўны штаб для акупіраваных абласцей мае права правяраць бібліятэкі, архівы, ложы і іншыя ідэалагічныя і культурныя арганізацыі ўсіх відаў на аснове адпаведнага матэрыялу і канфіскаваць іх для выканання заданняў нацыянал-сацыялісцкай партыі ў галіне ідэалогіі і для далейшага іх выкарыстання ў навукова-даследчай працы вышэйшых школ. Падобнаму размеркаванню падлягаюць і культурныя каштоўнасці, якія з'яўляюцца ўласнасцю яўрэяў, безгаспадарныя, а таксама і каштоўнасці нявысветленага паходжання. Палажэнне аб правядзенні сумеснай працы з узброенымі сіламі выдае начальнік штаба вярхоўнага галоўнакамандавання ўзброеных сіл па дамоўленасці з рэйхслейтэрам Розенбергам.

Некаторыя меры ў межах усходніх абласцей, якімі кіруе Германія, прымае рэйхслейтэр Розенберг у якасці рэйхсміністра ў акупіраваных усходніх абласцях.

Адольф Гітлер".

Культурныя каштоўнасці падвергаліся разграбленню ва ўсіх часова захопленых фашыстамі абласцях. У час апошняй вайны былі вывезены і разграблены фонды амаль усіх беларускіх музеяў, бібліятэк і архіваў. За мяжой беларускіх каштоўнасцей больш, чым у самой Беларусі.

Немцы вывезлі з бібліятэкі імя У. Леніна ў Берлін і Кёнігсберг 1,5 мільёна каштоўных кніг. Прадстаўнікі нямецкага генеральнага камісара шэф па так званых культурных справах доктар Сіўца, доктар Рахель, доктар Мілер, доктар Кох і доктар Мах вывезлі ў Германію бібліятэкі Акадэміі навук з фондам 300 тысяч тамоў, універсітэта, політэхнічнага інстытута, навукова-медыцынскую бібліятэку, гарадскую публічную бібліятэку імя А. С. Пушкіна.

Акупантамі ў 1941—1944 гадах разбураны і разрабаваны амаль усе ўстановы навукі і культуры, у тым ліку ВНУ, НДІ, музеі, карцінныя галерэі, помнікі старажытнасці, будынкі школ, бальніц, клубаў, бібліятэк.

**Мікалай БАНДАРЭНКА.**

ДЫЯСПАРА

# БЕЛАРУСЫ Ў КАЛІНІНГРАДЗЕ



Адметнасць Калінінградскай вобласці Расіі: тут жыве шмат беларусаў, якія трапілі сюды адразу пасля вайны, каб аднавіць разбураныя гарады і вёскі і ўдыхнуць у іх жыццё. Ёсць на гэтай зямлі і перасяленцы з чарнобыльскай зоны, якія назвалі свае паселішчы Новабабруйск, Мазыр, Палеск.

З прыемнасцю даведваемся, што беларусы і тут вельмі паважаныя людзі, сярод іх адміралы, прафесары, выкладчыкі мясцовага універсітэта, дактары, акцёры, высокакваліфікаваныя спецыялісты рыбнай гаспадаркі. Намеснік кіраўніка адміністрацыі вобласці Іван Піменаў — таксама беларус.

Некалькі гадоў таму назад па ініцыятыве Ігара Шаховіча было зарэгістравана таварыства беларускай культуры Калінінградскай вобласці "Каралевец". Нягледзячы на тое, што хлопец нарадзіўся ў Калінінградзе, вучыўся ў рускай школе, ён кожнае лета выязджаў падчас канікулаў да сваёй бабулі ў вёску, якая знаходзіцца ў Магілёўскай вобласці. Адсюль пачалося яго захапленне беларускай мовай, тут ён пачаў знаёміцца з багатымі традыцыямі, з культурай і гісторыяй Беларусі, адчуў сябе беларусам.

А потым пачалася грамадская дзейнасць. Штогод па яго запрашэнні прыязджаюць з Беларусі ў Калінінград беларускія акцёры, гісторыкі, паэты, барды, фальклорныя калектывы, якія выступаюць перад шматлікай публікай. І заўсёды яму дапамагаюць ва ўсіх справах маці і жонка Наташа.

І ў гэтым годзе ў Калінінградскай вобласці прайшлі ўжо традыцыйныя Дні беларускай культуры. Міністэрства культуры Беларусі зрабіла добры падарунак нашым землякам, адправіўшы на свята цудоўны фальклорны калектыў "Бялыніцкія музыкі", мужчынскі камерны хор "Унія" і вядомага беларускага барда і акцёра Віктара Шалкевіча. З вялікім поспехам прайшлі іх канцэрты ў гарадах Балтыйск, Праўдзінск, Дворкіна, Калінінград, вёсках вобласці. Разам з творчымі калектывамі з Беларусі з поспехам выступалі і мясцовыя — харэаграфічны і фальклорныя ансамблі з Балтыйска, Савецка, Светлагорска і Калінінграда.

Падчас сустрэчы ў адміністрацыі вобласці намеснік губернатара І. Піменаў выказаў удзячнасць ураду Беларусі і мясцоваму беларускаму таварыству "Каралевец" за правядзенне Дзён беларускай культуры. Ён расказаў аб развіцці эканамічных сувязяў з Беларуссю, аб праекце падрыхтоўкі спецыялістаў для Беларусі ў рыбнай галіне, аб сумесным прадпрыемстве па пастаўцы рыбы ў Беларусь, аб дапамозе ў стварэнні гандлёвага флоту для Беларусі. З вялікім энтузіязмам ён падтрымаў ідэю Ігара Шаховіча аб устаноўцы помніка вялікаму беларускаму асветніку і гуманісту, выдатнаму дзеячу славянскай і сусветнай культуры Францыску Скарыне ў Калінінградзе. Тут у 1530 годзе вялікі герцаг Альбрэхт Брандэнбургскі ажыццяўляў радыкальныя рэформы ў дзяржаўным кіраванні, царкоўных адносінах, садзейнічаў развіццю вышэйшай асветы і кнігадрукавання на лацінскай і нямецкай мовах. Гэтая друкарска-асветніцкая дзейнасць прывабіла нашага славутага земляка Францішка Скарыну. Некалькі месяцаў ён жыў у колішнім Каралеўцы па запрашэнні герцага.

Трэба адзначыць, што праект помніка ўжо распрацаваны беларускім скульптарам Анатолем Арцімовічам. Пачалася праца над яго стварэннем, прафінансавана напалову Джяржкамітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей. Другую палову неабходных сродкаў выдзяляе адміністрацыя вобласці.

На развітанне Іван Уладзіміравіч упэўнена сказаў:

— Помнік будзе абавязкова ўстаноўлены ў цэнтры Калінінграда ўжо сёлета.

**Ніна ПЕТУХОВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: намеснік кіраўніка адміністрацыі Калінінградскай вобласці Іван ПІМЕНАЎ родам з Бабруйшчыны; з беларусамі Калінінграда.**



# ЯНЫ ВЫРАТАВАЛІ ГОНАР НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ДЭМАКРАТЫІ




(Заканчэнне
Пачатак на 1-й стар.).

на" Радзіма Гарэцкага тады было 22 гады, але думаў ён па-сталаму і масштабна: абгрунтаваў праграму эканамічнага і духоўнага адраджэння Беларусі. Праўда, гісторыя Беларусі ў той час яму ўяўлялася паводле нашаніўскай публіцыстыкі, на якую ўплывала легенда афіцыйнай расійскай гістарыяграфіі пра "заваяванне" Беларусі літоўцамі. "Жывём, — пісаў Г. Гарэцкі, — як гарох пры дарозе: хто йдзе, той і скубе" [...]. Склаўшыся (ў) зусім асобную нацыю яшчэ ў XII веку, беларускія плямёны аселі на вярхоўях Заходняй Дзвіны і Дняпра [...]. Не прыспела Полаччына і іншыя княствы беларускія вытварыць формы вольнага самастойнага жыцця, як ваяцкія літоўцы захапілі іх пад сваю ўладу, прымусілі дзяліць з імі іх гістарычную долю".

Але гэтая расійская канцэпцыя пераасэнсавана на беларускі, адраджэнскі лад. Правадырамі беларускага народа Г. Гарэцкі назваў Антона Навіну (Луцкевіча) і Язэпа Лёсіка. Аўтар прадбачыў вялікія эканамічныя магчымасці Бацькаўшчыны, верыў, што ў адроджанай Беларусі закрасуюць родная мова, навукі і мастацтва. Зусім верагодна, што ініцыіраваны Г. Гарэцкім зборнік "Маладая Беларусь" прычыніўся да яго першага тады кароткатэрміновага арышту органамі АДПУ ў верасні 1922 года.

У даследаванні "Першы арышт: З жыцця Гаўрылы Гарэцкага" акадэмік Р. Гарэцкі пацвердзіў гэтае меркаванне аналізам матэрыялаў па "справе Г. Гарэцкага" 1922 года (перапіска расійскага ДПУ са сваімі аддзеламі ў Мінску і з ЦК КПБ). Г. Гарэцкі быў выдатным палемістам: яшчэ студэнтам Горы-Горацкага каморніцкага вучылішча выступаў супраць русіфікатарскай прапаганды. У Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі Г. Гарэцкі — адзін з заснавальнікаў Беларускай культурна-навуковай асацыяцыі студэнтаў гэтай навучальнай установы, арганізатараў Першай канферэнцыі студэнтаў-беларусаў у Маскве, беларускага студэнцкага клуба і выдавецкага таварыства "Маладая Беларусь". У службовых запісках чыноўнікаў ДПУ патрыёт Беларусі ў рэзкай форме характарызуецца як "вораг савецкай улады", яго абвінавацілі спадкаемцы "чорнай сотні" бальшавіцкія шавіністы ў міфічным "беларускім шавінізме". У паклёпніцкай справе ёсць копія ліста Г. Гарэцкага да У. Ігнатоўскага. "Напэўна чулі Вы, — гаворыцца ў ім, — аб усіх здарэннях у Маскве. Усё гэта звязваецца з дзейнасцю беларускай культурна-навуковай асацыяцыі студэнтаў маскоўскіх навуковых устаноў. Да гэтага далучаецца выданне "Маладой Беларусі" [...]. Як ні цяжка, як ні сумна, але пакідаць ранейшае дзейнасці не можна. Асабліва важна пакінуць жывою здаровую Беларускую Асацыяцыю студэнтаў-пятроўцаў. Гэта грамада, маючая ў складзе 175 чалавек, можа даць вельмі значную па ўдзельнай вазе частку беларускай аграномічнай інтэлігенцыі, скрозь пранятую ідэямі Рэнесанса Беларусі, пабудаванымі на грунце найвялікшых усечалавецкіх ідэй нашага веку".

З іншых матэрыялаў навуковага аддзела зборніка трэба адзначыць нарыс П. Любецкага (Паўла Каравайчыка, 1896—1937) "Беларуская культурна-нацыянальная справа ва Усходняй Беларусі". Аўтар упершыню абгрунтаваў думку, што пачынальнікамі нашага нацыянальнага адраджэння былі пераважна выхадцы з Заходняй Беларусі, найбольш з каталіцкага асяроддзя. П. Любецкі адкрыта выкрываў бальшавіцкі псеўдауніверсалізм, пад якім хаваўся прыкрыты дэмагогіяй маскоўска-расійскі шавінізм. У артыкуле прыведзены шматлікія факты, якія сведчылі, што з органаў асветы ў тагачаснай БССР выцясняліся не толькі адраджэнцы-беларусы, але і выдатныя расійскія беларусісты, напрыклад, вядомы этнограф І. Сербаў. "К жалю нашаму, — пісаў П. Любецкі, — мы бачым нават, што некаторыя жыдоўскія і польскія дзеячы граюць у адну дудку з маскоўскімі шавіністамі". Так, адзін з кіраўнікоў Гомельскага аддзела народнай адукацыі нехта Пістун на запытанне аб беларускіх школах у Гомельшчыне цынічна заявіў: "В моей губернии белорусов нет. Их выдумали интеллигенты".

Не страцілі сваёй навуковай цікавасці апублікаваныя ў "Маладой Беларусі" даследаванні Алеся Функа "Стварэнне беларускай народнасці" і прафесара П. Растаргуева "Беларуская мова ў святле яе навуковага пазнання".

У літаратурным аддзеле друкаваліся нарысы Цішкі Гартнага, якія ён прысылаў з Берліна, дзе выдаваў беларускія кніжкі ("Шырэй крокі: Замест мовы на магіле А. Бурбіса", яго ж верш "Grundwald"). Друкаваліся вершы У. Дубоўкі ("Вясна на чужыне", "На дзень разбурэння Ерузаліму Цітам: З "Гэбрэйскіх мелодый" Байрана", "Зданні"), вершы М. Чарота ("Родныя птушкі", "На чужыне", "З выраю"), Я. Журбы ("Кліч вясны", "У майскую ноч", "Гімн Сонцу"), урыўкі з паэмы З. Бядулі "Ярыла".

Яшчэ адну спробу аднавіць "Маладую Беларусь" зрабілі беларускія адраджэнцы ў Заходняй Беларусі пад Польшчаю: у 1936 годзе яны выдалі ў Вільні першую і апошнюю кніжку пад гэтай назвай, абазначыўшы яе як літаратурна-грамадска-навуковы часопіс. Выдаўцом быў Мікіта Шчорс, а рэдактарам — Вітаўт Тумаш. У рэдакцыйным артыкуле часопіса "Вільня, люты 1936 г." ёсць спроба стварыць свой, заходнебеларускі маладнякізм. "Нашае старэйшае грамадзянства, — гаворыцца ў ім, — думае ў значнай меры катэгорыямі перастарэлымі і неактуальнымі, узалежняючы ад іх усю сваю дзейнасць. Усякія ж свежыя і жывыя думкі і ідэі, уношаныя маладым пакаленнем, спатыкаюцца з незразуменнем, а нават з адпорам". Заснавальнікі яшчэ адной "Маладой Беларусі" спадзяваліся, што ў часопісе "будуць узгадоўвацца новыя працаўнікі", якія наблізяць грамадскую думку і літаратуру да рэальных праблемаў жыцця. У літаратуры, на думку В. Тумаша і ягоных сяброў, будзе перанесены акцэнт "на развіццё новых мастацкіх формаў і кірункаў".

Практычна ж у часопісе друкаваліся творы паэтаў-традыцыяналістаў: вершы Міхася Машары, Максіма Танка, Хведара Ілляшэвіча, Андрэя Александровіча, апавяданні Платона Галавача і пакуль што невядомага аўтара М. Даліны.

У часопісе "Маладая Беларусь" (1936 год) Рыгор Шырма апублікаваў артыкул "Мастацкая песня ў Заходняй Беларусі", які паклаў пачатак сістэматычнаму вывучэнню гэтым рупліўцам нацыянальнай культуры народнай песеннай культуры.

Сярод перыёдыкі далёкага замежжа найменш вядомы сёння ў Беларусі цікавы ілюстраваны літаратурна-мастацкі часопіс беларускіх эмігрантаў у ЗША "Конадні". Выдаваўся ён Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Йорку на беларускай мове ў 1954—1955, 1958 і ў 1963 гадах. Галоўны рэдактар і склад рэдкалегіі не названы. Часопіс друкаваў паэзію, прозу, літаратурную крытыку і публіцыстыку беларускіх эмігранцкіх пісьменнікаў, хроніку літаратурнага і навуковага жыцця. Апублікаваў некалькі цыклаў вершаў Наталлі Арсенневай, творы Масея Сяднёва, фрагменты з рамана К. Акулы "Гараватка", вершы і апавяданні М. Кавыля, Ю. Віцьбіча, К. Юхневіча, Я. Юхнаўца, А. Салаўя. Р. Крушыны, У. Дудзіцкага, Г. Нямігі, А. Галіны, А. Саковіч, П. Сыча, Б. Грэцкага, іншых літаратараў з эміграцыі. Зрэдку публікаваліся творы пісьменнікаў Савецкай Беларусі (падборкі вершаў Максіма Танка, Уладзіміра Караткевіча, узятыя з часопіса "Полымя").

З іншых літаратурных жанраў часопіс "Конадні" апублікаваў успаміны пра Янку Купалу, Элаізу Пашкевіч-Цётку, Алеся Гаруна, Язэпа Лёсіка, пераклады з нямецкай, украінскай, польскай літаратур.

Цікавай атрымалася ў часопісе літаратурная крытыка. У нарысе пра паэзію Уладзіміра Жылкі Язэп Менскі (верагодна, псеўданім) грунтоўна даследаваў вытокі мастацкіх вобразаў паэмы "Уяўленне" ды іншых твораў выдатнага паэта трагічнага лёсу. Р. Склют (Антон Адамовіч) апублікаваў цікавае эсэ пра творчасць Уладзіміра Дубоўкі "З "Яснай явы" — у "Начное царства". У ім раскрываецца сімволіка твораў паэта (нізка вершаў "Пярэсты букет", паэмы "Браніслава", "Штурмуйце будучыні аванпосты"), у якой зашыфравана дасціпная крытыка савецкай рэчаіснасці напярэдані першай хвалі масавых рэпрэсій у 1929—1930 гадах. А. Адамовіч, узвышанец, сведка і ахвяра бальшавіцкага задушэння нашай літаратуры, між іншым, адзіны пакуль што крытык, які раскрываў прататыпы Дубоўкавых гратэскавых вобразаў. У заключэнні свайго даследавання А. Адамовіч напомніў: Янка Купала і Уладзімір Дубоўка — кожны ў свой час — першымі ў "сэрцы трывожным пачулі за краіну радзімую жах" (М. Багдановіч).

Выяўленне скрытых сэнсаў літаратурных твораў А. Адамовіч працягваў у арыгінальным артыкуле "Мастацкая крыптаграфія ў беларускай літаратуры". Зашыфроўка сацыяльна-палітычнай рэальнасці пачалася ад Янкі Купалы і Якуба Коласа (алегорыі "зімы", "ночы", "вясны", "казкі жыцця"), таленавіта ўдасканальвалася У. Дубоўкам у паэмах. У гэтым жа ключы ствараліся апавяданні Міхася Зарэцкага "Максімалісты" (бальшавікі ў вобразах "юных піянераў"), паэмы Ю. Таўбіна "Таўрыда" і С. Астрэйкі "Бенгалія". Шырока выкарыстоўваўся метад "давання трыбуны": праўду гаварыў не аўтар, а ягоны герой, найчасцей герой "адмоўны", у якога пераапранаўся пісьменнік (раман "Вязьмо" М. Зарэцкага), прыёмы стварэння двух і трох сэнсаў, "пераклічкі", двухсэнсавага размяшчэння твораў у зборніках (верш Янкі Купалы "Паўстань!" поруч з перакладам гімна "Інтэрнацыянал").

У рэцэнзіі на паэтычныя зборнікі "Пад зорамі белымі" М. Кавыля і "Ля ціхай брамы" М. Сяднёва крытык А. Адамовіч, спасылаючыся на эстэтычныя канцэпцыі А. Бабарэкі і У. Дубоўкі, даследаваў узвышанскія традыцыі ў эмігранцкай беларускай паэзіі. Навуковую цікавасць захавала даследаванне С. Брагі (Вітаўта Тумаша) "Міцкевіч і беларуская плынь у польскай літаратуры": беларускія тэмы і матывы тут прасочваюцца ад Яна Чачота і ягоных сяброў філаматаў да сучаснага лаўрэата Нобелеўскай прэміі Чэслава Мілаша. У часопісе "Конадні" гэты руплівы даследчык распачаў даследаванні пра спадчыну беларускага асветніка-першадрукара, апублікаваў артыкул "Партрэт доктара Скарыны".

Сёння не страціў сваёй актуальнасці нарыс Р. Максімовіча "Важнейшыя моманты культурных працэсаў Беларусі" (1955, № 3). Гутарка ідзе пра геапалітычнае становішча Беларусі паміж Заходняй Еўропай і еўра-азіяцкай Расіяй, у выніку якога тут адбывалася сутыкненне разнастайных уплываў — польскіх, нямецкіх, італьянскіх, скандынаўскіх, візантыйскіх, расійскіх. Аўтар паказаў, што ў XVII—XVIII стагоддзях Беларусь інтэнсіўна ўплывала на духоўны клімат Расіі. Да XIX стагоддзя ўплывы Расіі на Беларусь, на думку Р. Максімовіча, вельмі праблематычныя. Урэшце, нават пасля канчатковага падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе да паўстання 1831 года супраць Расійскай імперыі ў Беларусі адбывалася хутчэй паланізацыя, чым русіфікацыя. На думку аўтара, да пачатку XX стагоддзя "на беларускіх землях дамінавалі заходнееўрапейскія культурныя формы".

У часопісе "Конадні" сціпла прадстаўлены выяўленчыя матэрыялы, у тым ліку рэпрадукцыі карцін М. Сяўрука, П. Мірановіча, М. Навумовіча.

У адрозненне ад акадэмічнага (па метаду падачы матэрыялу і памеру) часопіса "Конадні" грамадска-палітычны і літаратурны часопіс "Беларуская думка" арыентуецца на адносна шырокага чытача, пачынаўся як выданне сціплае па афармленню і памеру (у бібліятэках Беларусі ёсць камплекты да 1992 года). Выдаецца ён з кастрычніка 1960 года Беларускім выдавецкім таварыствам. Першым яго галоўным рэдактарам быў Антон Даніловіч, з 1986 года — Міхась Кавыль, у рэдкалегію ўваходзілі ў розныя гады М. Касяк, І. Касяк, протаіерэй М. Лапіцкі, М. Шчорс, Л. Гляк, М. Бахар, У. Брылоўскі, протаіерэй С. Коўш, В. Цярпіцкі і інш. Гэтае выданне заслугоўвае асобнага даследавання, пакуль што абмяжуюся сціслай інфармацыяй пра тэматыку і аўтараў "Беларускай думкі".

У праграмным звароце "Ад рэдакцыі" зазначалася, што Беларускае выдавецкае таварыства (БВД) "не залежыць ні ад якае палітычнае партыі ці групы як з ідэалагічнага, так і з матэрыяльнага (фінансавага) боку". Мэта БВД — "служыць беларускаму народу, беларускай нацыянальна-вызвольнай ідэі і справе дэмакратыі". Значнае месца ў часопісе займала палітычная публіцыстыка. Тут друкаваліся смелыя рэдакцыйныя артыкулы "Тыдзень панявоненых народаў", "Бальшавізм і пытанне беларускай дзяржаўнасці", "Да гісторыі нацыянальных дачыненняў на Беларусі", "Шляхам змагання", "Сучаснае міжнароднае напружанне", артыкулы У. Глыбіннага (Сядуры) "Беларуская культура і таталітарызм", яго ж "Смаленшчына — адвечная зямля беларускага народу", Л. Гляка "Прыяцелі ці ворагі?" і шмат іншых матэрыялаў у абарону Беларусі і беларускай культуры.

У літаратурным аддзеле часопіс надрукаваў шмат вершаў, апавяданняў, нарысаў Янкі Золака (псеўданім першага рэдактара часопіса А. Даніловіча), У. Клішэвіча, Міхася Кавыля, Масея Сяднёва, А. Калубовіча, Л. Юхнаўца, цікавыя нарысы Юркі Віцьбіча, шмат іншых аўтараў. Артыкулы навуковыя і літаратурна-крытычныя, як правіла, вызначаюцца публіцыстычнасцю, пафасам змагання за вольную і незалежную Беларусь. Сярод іх — нарысы і нататкі А. Калубовіча "Прафесар М. Доўнар-Запольскі", У. Глыбіннага "Паэт з Божай ласкі" (пра Язэпа Пушчу), "На шляху да паэтычнага мастацтва" (Зборнік вершаў Міхася Кавыля "Ростані" і "Пад зоркамі белымі")", Я. Ляшчыны "Янка Золак (Да саракагоддзя літаратурнай дзейнасці)", С. Коўша "Прарок беларускага адраджэння (Рэферат, прачытаны на ўрачыстай Акадэміі, прысвечанай 90-годдзю з дня нарадзінаў Янкі Купалы і Якуба Коласа)", Б. Шчорса "Вялікая дочка Беларусі (На 800-я ўгодкі смерці святой Еўфрасінні Полацкай)", М. Кавыля "О, Беларусь, мая шыпшына (Рэферат, прачытаны на Акадэміі, прысвечанай памяці Юркі Віцьбіча)", С. Коўша "Ідэя беларускага адраджэння ў творах Янкі Купалы і Якуба Коласа".

Часопіс "Беларуская думка" зрэдку друкаваў пісьменнікаў і сваіх карэспандэнтаў з былой БССР, у тым ліку фрагменты з даследавання Алега Бембеля "Што мы думаем пра цябе, родная мова?" з пасляслоўем Уладзіміра Караткевіча і невялікую паэму Антаніны Хатэнка "Здзічэлае рэха вясны". Публікавалася інфармацыя пра першы міжнародны Кангрэс беларусістаў 25—27 траўня 1991 года.

Сёння вельмі патрэбна ўвесці беларускія літаратурна-мастацкія і навуковыя часопісы блізкага і далёкага замежжа ў кантэкст гісторыі нашай літаратуры, журналістыкі, філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі. Бо ў змрочныя часы бальшавізму, сталінізму, "ліберальнага" таталітарызму і нават у гады гарбачоўскай перабудовы яны выратавалі гонар беларускай нацыі і нацыянальнай дэмакратыі.

**Уладзімір КОНАН.**

АБ ТВОРЧАСЦІ ДАНУТЫ БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВАЙ

# ГОСЦЯ З ГАРОДНІ

Напрыканцы красавіка ў музеі Янкі Купалы адбылася вечарына "Вучуся шчырасці ў Купалы", прысвечаная творчасці Дануты Бічэль-Загнетавай. Не выпадкова менавіта гасцінны Дом Купалы сабраў шчырых прыхільнікаў творчасці беларускай паэтэсы. У 1984 годзе за кнігу паэзіі "Дзе ходзяць басаножк" Д. Бічэль-Загнетава ў ліку першых атрымала Дзяржаўную прэмію Беларусі імя Янкі Купалы.

Свае ўдзячнае слова прыйшлі сказаць народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль, літаратары і сябры Дануты Янаўны: Хрысціна Лялько, Ірына Крэнь, Валянціна Коўтун, Ірына Жарнасек, Сяргей Панізнік, Леанід Дранько-Майсюк, Леанід Галубовіч, Міхась Скобла, Уладзімір Конан, Вера Буланда. На вечарыне гучалі песні на словы Д. Бічэль-Загнетавай у выкананні выхаванцаў дацэнта Беларускай акадэміі музыкі Валерыя Жывалеўскага, навучэнцаў музычнага вучылішча імя Глінкі і гурта "Дзень незалежнасці". Да імпрэзы была прымеркавана выстава "Кахаю... Люблю. Беларускаму краю бясконца я слова "люблю" паўтараю", экспанаты якой распавядаюць пра жыццё і творчасць паэтэсы.

*Ніжэй друкуем артыкул Ірыны Жарнасек, прысвечаны паэтцы, напісаны па просьбе рэдакцыі.*

# «ХАЙ ПРАДЗЕЦЦА ТАБЕ, НЯХАЙ ТВОРЫЦЦА...»

**Лёс закінуў мяне на кругі,**
**дзе пад месяцам дрэмле калоссе.**
**Чым валодаю, тут пачалося —**
**процьма шчаснасці,**
**бездань тугі.**

Ах, значыць, вось яна ў чым, таямніца Дануты Бічэль-Загнетавай, якую я столькі ж разгадваю, колькі чытаю і перачытваю яе зборнікі вершаў! Яна, гэтая таямніца, у яе родных Біскупцах! У тых самых Біскупцах, дзе ніколі не ступала мая нага і пра якія я, дзякуючы паэтцы, ведаю ўжо так шмат. Ведаю, як на маю думку, самае галоўнае: гэта тыя самыя Біскупцы, якія падарылі ўсім нам паэтку Дануту Бічэль-Загнетаву і да якіх так моцна прывязана яе душа:

**Змарнавала б у горадзе сэрца,**
**каб яно не лунала між вас.**

"Між вас" — гэта значыць, сярод землякоў, якім прысвечаны не адзін верш паэткі. Сэрца не змарнавалася. Яно вось ужо не так і мала год пераплаўляецца ў сотні, тысячы вершаў, дзесяткі кніг, адзін пералік якіх заняў бы шмат месца. Першы зборнік яе вершаў "Дзявочае сэрца" пабачыў свет у 1961 годзе. І паляцелі ў імклівым палёце гады працы... А зрэшты, слова "праца" — ці дакладнае гэта вызначэнне для таго, што Данута Янаўна робіць у беларускай літаратуры? Бо працуюць усё ж тыя, з каго сцякае пот, хто руплівa і дбайна адмервае гадзіны свайго жыцця, пасля якіх выдаецца плён. Тут жа — нейкі суцэльны лёгкі палёт над зямлёю, які пачаўся над Біскупцамі, а потым... Потым — над Навагрудкам, Гародняй, Мінскам, Полацкам, Свіцяззю, над Кушлянамі і Жупранамі, над Купалавымі Ляўкамі і Максімавымі дарогамі, над сцiплымі Доцішкамі і мройнымі Дубултамі, над плаўным і родным Нёманам і стромкай Дзвіною. Гэты палёт выдае такім лёгкім, нязмушаным, натуральным, што іначай — як жа?.. І ўсе ягоныя хвілінкі — горкія і шчасныя, вясёлыя і самотныя — леглі ў вершы, гэткія ж лёгкія, як сонечныя блікі на нёманскіх хвалях.

**Зіхацяць, кіпяць, шугаюць хвалі —**
**Нёман іх утаймаваць не можа.**
**Мы, знямелыя, над кручай сталі:**
**О, які ж ты злосны і прыгожы!**

**Ты, як бацька, з намі ўсім дзяліўся.**
**Ты праз нашы сэрцы пераліўся.**
**Мы ў быстрынях набіралі сілы.**
**Між віроў дужэлі нашы крылы.**

Дык вось, значыць, адкуль гэтая дужасць крылаў! Яна нарадзілася ў нёманскіх вірах! Вось адкуль гэтае багацце пачуццяў, фарбаў, слоў, што — варта толькі адкрыць любую кнігу паэткі — адразу ж бяруць у палон сваёй таямнічай красой. Яны — з Нёмана! З шырокага, плаўнага, векавечнага прыгажуна Нёмана! А паэтка тым часам, нібы пасміхаючыся з маёй здагадкі, скажа:

**Я зжылася з вятрамі, з нягодамі.**
**Мне казалі, што я не гордая.**
**Таму я не гаманлівая,**
**што ўзрасціла зямля неўрадлівая,**
**перакроеная, пясчаная...**
**Тутэйшая...**
**Я звычайная.**

Звычайная... Гэта можа і расчараваць. Якія ж могуць быць таямніцы ў "звычайных"? Значыць, такая ж, як і ўсе, хто побач. Але... Але хто яшчэ, апрача Дануты Янаўны, можа так сказаць:

**Заслана тканаю дзяружкай лава.**
**Там Багдановіч — найшчырэйшы госць.**
**На покуце Рагнеда і Прадслава.**
**І нам адведзенае месца ёсць.**

**Хто слову служыць,**
**там бывау не раз.**
**Да той жанчыны, мудрай і прыгожай,**
**даеду ў замець я, у бездарожжа...**
**Якая ёсць з'яўлюся, без прыкрас.**

Хто яшчэ мае права сказаць так пра Ларысу Геніюш? Цяпер пра яе пішуць і кажуць не так ужо і мала. Але хто ёй у свой час падставіў плячо, на якое б яна, ужо хворая і нямоглая, магла абаперціся і хоць крышку адчуць простай спагады, чалавечнасці? Не, ездзілі да яе шмат хто. І набіраліся мудрасці, як набіраюцца сілы хворыя, што прыняпі ў свае жылы донарскую кроў. Ды ўсё ж... Данута Бічэль-Загнетава была для Ларысы Геніюш не толькі госцем, не толькі сасмаглым па праўдзе пацыентам, але яшчэ і падпорай. Да апошняга дня. Да апошняга ўздыху Ларысы Антонаўны на ложку ў гродзенскай бальніцы. Раней было рэдагаванне вершаў паэткі, дапамога ў самых розных жыццёвых сітуацыях. Цяпер жа — і ці не найважнейшае гэта? — догляд за хворай, фізічна слабай, нямоглай. Як удзячнасць за тыя даўнія ўжо радкі Ларысы Антонаўны, прысвечаныя Данусе:

**Добры дзень, дарагая, харошая,**
**маладзенькі праменьчыку наш,**
**заварожана разам з Каложаю,**
**ганаровая Нёмнава страж.**

Мабыць, усё ж загадка Дануты Бічэль-Загнетавай у тым, што яна заўсёды рабіла тое, што не магла не рабіць. Да прыкладу, аднойчы ўсвядоміўшы сама веліч зоркі Максіма Багдановіча для Беларусі, яна зрабіла ўсё магчымае, каб гэтая зорка засвяціла для многіх і многіх. Для тых, хто яго любіў раней. Для тых, хто яго не ведаў раней, але адкрыў для сябе, прыйшоўшы ў музей Максіма Багдановіча ў Гародні, які створаны тут клопатам Дануты Янаўны.

**Я жыву ў тваім доме, Максіме.**
**Гэта лёс мой, мяне не прасілі.**
**На твой голас іду тваім следам.**
**Так, іду за вялікім паэтам.**

Яе шлях "за вялікім паэтам" — гэта шлях вяртання паэта тым, хто, калі ўсё было на добрае, то любіў бы яго і ганарыўся б ім, як любяць палякі Міцкевіча, альбо рускія — свайго Пушкіна. Калі б усё было на добрае...

**Аплакваю ўначы свайго Максіма,**
**які даўно спакойна ў Богу спіць.**
**Уваскрасаеш у Хрысце, Радзіма.**
**Сатрапу не сагнуць усіх нас ніц.**

**Усходзьце, Наша Доля, Наша Ніва!**
**І, сонейка, нам проста ў твар заззяй.**
**Уваскрасайце, Нёман і Няміга.**
**Свяціся, Беларусь, уваскрасай.**

Радзіма ўваскрасае разам з паэтамі. Ці бывае інакш? Ці магчыма інакш? Бо хто яшчэ ўмее так бескарысліва і аддана любіць сваю радзіму, як яны, паэты розных часоў, пакаленняў, калі толькі, вядома, яны сапраўдныя паэты?

**Маці родная, Маці-Краіна!**
**Не ўсцішыцца гэтакі боль...**
**Ты прабач, Ты прымі свайго сына,**
**За Цябе яму ўмерці дазволь!..**

*Максім БАГДАНОВІЧ.*

**З болю народа,**
**з ягоных надзей,**
**як любоў і сумленне свету,**
**як носьбіты вольных і светлых ідэй,**
**з зямлі прарастаюць паэты.**

*Ларыса ГЕНІЮШ.*

**Без тваіго існавання —**
**руіна.**
**На высокім цярпенні згару.**
**Як пазнаць,**
**падказала краіна:**
**— Каго любіш!**
**— Люблю Беларусь.**

*Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА.*

Напэўна паэты не вельмі радуюцца, калі хтосьці намагаецца разгадаць таямніцу іхняе творчасці. Бо сапраўдная паэзія заўсёды застаецца ёй, як бы нам ні карцела яе разгадаць. Спыню і я свае кароткія пошукі разгадкі таямніцы творчасці паэткі Дануты Бічэль-Загнетавай. Спыню на словах, напісаных ёю ў вершы "Лёс":

**— Каго любіш!**
**— Люблю Беларусь.**

Гэта не разгадка таямніцы. Не. Бо сапраўдная любоў да радзімы — гэта заўсёды вялікая таямніца. А любоў, што выліваецца ў вершы, толькі павялічвае яе. Няхай жа яна застанецца для мяне і надалей — шчаслівая загадка творчасці нашай Дануты Янаўны. І лепшага ёй пажадаць, чым пажадала некалі яе мудрая настаўніца і сяброўка Ларыса Геніюш, напэўна, немагчыма:

**Хай прадзецца табе, няхай творыцца —**
**яшчэ скрыні не поўныя ў нас...**

**Ірына ЖАРНАСЕК.**

ПАМЯЦІ ВЕРЫ НІЖАНКОЎСКАЙ З РОДУ СНІТКАЎ

# РАВЕСНІЦА ВЕКУ



7-га траўня 1998 года пад сапаўіны пошчак завяршыла свой жыццёвы круг найстарэйшая жыхарка Радашкавічаў Вера Ніжанкоўская (1901—1998). Была яна з слаўтага роду Сніткаў. Пасля лёс яе знітаваўся з лёсам славутага беларускага дзеяча і вучонага Браніслава Тарашкевіча, аўтара першай "Беларускай граматыкі для школ". З ім яна не адзін год дзяліла радасць і скруху, трывогу змагання за правы беларусаў "людзьмі звацца".

Перажыла не адну трагедыю. Першая сусветная вайна забрала бацьку і брата. Гэтая ж вайна зрабіла і яе выгнанніцай. Жыла на Украіне і ў Расіі і толькі пасля вярнулася на Беларусь. У 1938 годзе савецкі рэжым пазбавіў яе мужа — Браніслава Тарашкевіча. Ён быў расстраляны як вораг народа. Вайна 1941—1945 гадоў забрала і зусім юнага сына — партызана Славіка. Трагічны лёс напаткаў і яе роднага дзядзьку — Аляксандра Уласава, рэдактара і заснавальніка "Нашай нівы". Ён таксама стаўся ахвярай савецкага рэжыму.

То як было жыць, страцўшы ні за што ні пра што гэтулькі блізкіх! І ўсіх заўчасна! І ўсіх у росквіце сілы! І ўсіх такіх здольных, таленавітых, такіх непаўторных і родных! Але трэба было жыць. І яна жыла. Сваім жыццём нібы нітавала два стагоддзі, злучала некалькі пакаленняў. Шмат ведала, пабачыўшы ўсяго на сваім веку. Ёй выпала скончыць Пецярбургскі інстытут высакародных дзяўчат. У гэтым сэнсе яна была адзіная на ўсю Беларусь напрыканцы нашага стагоддзя. Парог яе хаты ведалі ўсе, хто прагнуў штосьць спазнаць з нашае мінуўшчыны, нашай гісторыі. Аўтару гэтых радкоў таксама пашчасціла не адзін раз сустракацца з гэтай найвысакароднай Жанчынай, інтэлігенткай яшчэ той пары! Сустрэчы гэтыя ўсе незабыўныя і вельмі карысныя. Многа праз Веру Андрэеўну намножаны найцікавы матэрыял. Ён чакае свае апрацоўкі, свайго асэнсавання, свайго роздуму. Але адзін яе ўспамін я хацеў бы прапанаваць ужо сёння. Тым больш, што ён пісаўся якраз у апошнія дні жыцця цяпер ужо незабыўнай Спадарыні.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

**НА ЗДЫМКУ: Вера НІЖАНКОЎСКАЯ. 20-я гады.**

# ЗГАДКА ПРАЗ СТАГОДДЗЕ

Вельмі прыгожы і каштоўны падарунак для Беларусі зрабілі сваю пару Захар і Зося Шыбекі, падрыхтаваўшы і выдаўшы ў 1994 годзе кнігу "Мінск. Старонкі жыцця дарэвалюцыйнага горада". Я часта яе чытаю, гартаю. Аднаго разу зноў узяўся чытаць ды гартаць. Вось дагартаўся да раздзела "Парад муз". На старонцы 169 прачытаў: "У 90-я гады мінулага стагоддзя ў Мінск прыехалі шэсць прафесійных мастакі: В. Маас, А. Папоў, Э. Сукоўскі..."

Сукоўскі! Чакайце! Зусім нядаўна хтосьці штосьць расказваў мне пра гэтага мастака. І не навуковец ці даследчык, а ягоны сучаснік. Скажаце, неверагодна: мастак Сукоўскі калі жыў! Пра якіх сучаснікаў можа быць размова! А я вось якраз чуў пра Сукоўскага ад яго сучасніцы, больш дакладна, ад сучасніцы. Але цікава, што ж гаворыцца пра мастака ў згаданым даведніку?

24 мая 1891 года ён браў удзел у гарадской выставе мясцовых мастакоў. Экспанавалася на ёй каля ста прац. На выставе 1891 года Эраст Сукоўскі паказаў такія свае творы, як "Дарога ў палескіх балотах у завіруху", "Зімовая дарога па рацэ на Палессі", "Раніца на пароме" і некаторыя іншыя. Выстава 1891 года падзіласся ў залах дома мінскага шляхетнага сходу.

І далей аўтары даведніка пра Сукоўскага паведамлялі: "Як ні прыкра, але ён забыты амаль зусім. Не захавалася ніводнага твора дараўітага мастака, дагэтуль не знойдзена ніякіх біяграфічных звестак. Вядома толькі, што служыў ён акцызным наглядчыкам..." Гэта пісалася ў дзевяностых гадах. Дзесьці гэтай жа парой я часта завітваў у Радашкавічы да слыннай Веры Андрэеўны з Сніткаў. Дык вось неяк раз падчас адное такое размовы яна згадала імя гэтага мастака. І не проста згадала. Яна яго ведала. Паводле слоў Веры Андрэеўны, ён быў яе настаўнікам малявання, даваў ёй урокі малявання. Быў ён ужо старэнькі, а мо і не такі ўжо і старэнькі, а толькі ёй, малой, так здавалася. Меў невялікі дамок на вуліцы Вясёлай насупраць сядзібнага дома Сніткаў. "Нашы вокны глядзеліся, — удакладняе абставіны суседства Вера Андрэеўна. — Раніцай падыходзілі да вокнаў і міла раскланьваліся..."

Вучыў Сукоўскі малую Веру маляваць найбольш акварэлькі. Ацалела два яе малюначкі — гіпапатамчыкі якіясь...

Прыгадала Вера Андрэеўна, што Сукоўскі афармляў у 1913 годзе сельскагаспадарчую выставу ў Радашкавічах. Запомнілася ёй рэклама, намаляваная Сукоўскім. Была яна вялікая, маляўнічая, прывабная і нават вясёлая, запрашала сялянаў ехаць на выставу.

Сукоўскі сябраваў з бацькам Веры Андрэеўны, вядомым таго ў Мінску археолагам, этнографам, краязнаўцам. Ён і запрасіў Сукоўскага ў Радашкавічы афармляць выставу.

У 1914 годзе пачалася вайна, і Сукоўскі, ратуючыся ад яе, ні з шмат хто, кудысьці знік, з'ехаў з Мінска.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

УСПАМІНАЙМА ПРА ІХ!

# ЗМАГАННЕ ЗА ЖЫЦЦЁ

...У гады яшчэ "савецкай радзімы" і яе "дружбы народаў" постаць Вісарыёна Гарбука і яго мужнасць у змаганні за жыццё і годны чалавека і пісьменніка лёс любілі параўноваць з Мікалаем Астроўскім (на яго рамане "Як гартавалася сталь" сапраўды ж выхоўвалася ўсё даваеннае пакаленне савецкай моладзі). Падабенства і сапраўды было: абодва аддалі маладосць — хоць і пры розных гістарычных абставінах — радзіме. М. Астроўскі ў гады грамадзянскай вайны. В. Гарбук — Вялікай Айчыннай 4 гады...

Праўда, у В. Гарбука — настаўніка мовы і літаратуры ў школе на Віцебшчыне — яшчэ да гэтага была Калыма...

Вайну прайшоў ён сапёрам (ад Масквы да Берліна). Пад бомбамі, пад кулямі ўзводзіў масты і пераправы, будаваў умацаванні. Вызваляў Беларусь. Прайшоў па Валыні, прайшоў Польшчу — Кутна, Седльцэ, Рэмбертаў, Сандомеж, плацдарм на Вісле... У красавіку 1945 года дайшоў да Берліна. Там стрэў і адсвяткаваў і Перамогу. З сябрамі салдатамі, каму лёс падараваў жыццё. Сапёр памыляецца адзін толькі раз. Гарбук не памыліўся на вайне... Але вайна не адпусціла яго так. Вайна сплаціла салдату за ўсё: і за тое, што ён яе адолеў, і што перамог, выжыў... Не мінуліся яму так ні ледзяныя па пояс балоты, ні акопы пад Віслай, ні вясна на Одэры... Як вораг з-за вугла, помсліва падкраўся і бязлітасна ўдарыў яго жорсткі поліартрыт. І на доўгія гады прыкаваў да шпітальнага ложка. Ні ўстаць, ні сесці, ні зрабіць кроку... Прайшлі гады, пакуль ён здолеў зноў узяць у рукі аловак і зрабіць ... першы (!) крок на мыліцах...

У шпіталі лёс падараваў В. Гарбуку стрэчу з медсястрой Людмілай Пракопаўнай — "Лю", так зваў ён яе — анёлам-выратавальніцай і ахоўніцай у яго несканчоных фізічных пакутах чалавека, на ўсё жыццё скаванага няўмольнай хваробай. Душа ж яго была да апошняга дня жыцця абнята адданым каханнем і высокім разуменнем гэтай непараўнальнай жанчыны... Апрача ўсяго яна была яшчэ і яго сакратаром. Кожная яго старонка — а Вісарыён пакінуў прыкметную літаратурную спадчыну — была надрукавана, а потым яшчэ і перадрукавана не адзін раз рукамі яго адданай "Лю". (Руская жанчына, дзеля яго яна вывучыла і дасканала авалодала беларускай мовай!).

Вісарыён Гарбук жыў у Пяцігорску. Прыязджаючы ў гэты горад, я тройчы наведвала яго ў светлай, бясконца ўтульнай ад мноства кніг і кветак кватэры па вуліцы Пушкіна.

— Многа задум! Многа хваляванняў!

Гэтымі словамі праводзіў мяне Вісарыён Сцяпанавіч пры нашай апошняй стрэчы ў Пяцігорску. Там ён і застаўся на вечны спачын.

... На маёй кніжнай паліцы засталіся яго кнігі прозы: "Не шукаю спакою", "Незнарок і знарок", "Хто такія мы"... І самая апошняя яго кніга — выбранага (для дзяцей і дарослых) — "Горад без папугайчыкаў". Яна красуецца сярод іншых маіх кніг у вясёлай радаснай кніжнай апратцы. І заўсёды нагадвае, нагадвае мне самога Вісарыёна Гарбука. Як ён умеў радавацца жыццю! Якія маладыя натхнёныя былі ў яго вочы!

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

З ГІСТОРЫІ РУСКА-БЕЛАРУСКІХ ЛІТАРАТУРНЫХ СТАСУНКАЎ

# ДА ЮБІЛЕЮ ПЕРАКАЦІ-ПОЛЕ

Калі аглядаць з вышыні сённяшняга часу гісторыю руска-беларускіх літаратурных сувязяў, асабліва — ранейшага часу, то, безумоўна, перад вачыма паўстане агромністая, бязмежная прастора. Шкада, што з-за розных абставін цікаўнасць да прадмета спакваля прападае, а часам ужо аднойчы адкрытае не атрымлівае развіцця ў новых даследаваннях. Думаю, што прычыны тут прыхаваны не толькі ў некаторай змене ідэалагічных прыхільнасцяў і перакананняў. Мо наадварот — якраз самы сёння час, каб даследаваць, прыкладам, і літаратуру, створаную пад уплывам марксісцкага вучэння. Усё ж такі другое стагоддзе адмерваюць многія з'явы з дня свайго нараджэння. Тыя з'явы, у залежнасці ад якіх, магчыма, і сённяшнія нашы паводзіны.

Мажліва, варта зазірнуць у літаратурную спадчыну Гілеля Калмансона (не блытаць з Якавам Калмансонам, яго братам, рэвалюцыянерам-эмігрантам). Тым болей, што сёлета ёсць нагода:

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

# ПАЭЗІЯ ВЫСОКАЙ ПРОБЫ

## РОЗДУМ ПРА ПАЭТЫЧНЫ ЗБОРНІК ЯНА ЧЫКВІНА

У серыі літаратурнага аб'яднання "Белавежа" (Беласток) выйшаў новы зборнік вершаў Яна Чыквіна пад загалоўкам "Свет першы і апошні". Ужо сама назва зборніка наводзіць нас на думку, што мы маем тут справу з нялёгкімі пытаннямі экзістэнцыянальнага парадку. Да таго ж паняцці "першага і апошняга свету" асацыююцца з уяўленнямі пра апакаліпсіс, пра канец свету. Але мы маем тут справу не з нейкім трактатам, а з паэзіяй, прытым з паэзіяй высокай пробы. Пагартаем старонкі гэтай выдатнай кнігі.

Кніга адкрываецца вершам не проста пра дождж, а пра "Свяшчэнны дождж". У ім лірычны герой скардзіцца, што "Ад розуму халоднага" ў ягоным доме "гасне хатні агонь", і шукае лекаў, збаўлення ад гэтага "халоднага розуму". У пакутных і безнадзейных пошуках лірычнаму герою мірсціцца вобраз "заплаканай жанчыны", што паўстае перад ім "напамінам неспакойным". У музыцы "свяшчэннага дажджу" лірычнаму

**І свет трымаю**
**ў абдымку хлапечым.**
**Насустрач душа ўсё імкне —**
**І, можа, гэта і ёсць**
**жыватворнасць ва мне.**

Гэтая "жыватворнасць" якраз найбольш і праявілася ў зборніку праз вобраз "заплаканай жанчыны". Гэты вобраз творыць настальгічную атмасферу зборніка, вызначае ягоны, так бы мовіць, клімат, лірычны ток, гуманізуе і тыя творы ў зборніку, што так ці інакш закранаюць эсхаталагічныя праблемы быцця, праблемы, пра якія гаварыў У. Конан, разглядаючы папярэдні зборнік Чыквіна "Кругавая чаша".

У вобразе "заплаканай жанчыны" лірычны герой бачыць свой паратунак, яна "ахавальніца" ягонага жыцця, апошняя надзея, і ён ёй удзячны за ўсё:

**...за кшталт тваіх далоняў,**
**што атулялі мяне ў месцах**
**найбольш збалелых,**

у вобразе "жоўтавалосай Ніке, што прыйшла на адзін міг з свету іншага, "першасна-боска-напеўнага", каб "тутэйшае жыццё наўколнае абагавіць".

Не маючы надзеі вярнуцца ў свет першасны, лірычны герой уявіў сябе ў свеце, дзе "калосяцца жыта і воды з мёртвых лечаць", у свеце, у якім "затрымаліся часу стрэлкі", дзе пануе цішыня, як на лясным возеры. На гэтым ціхім возеры няма

**Ні хваль перастваральных,**
**Ні ў тонях вадакрутаў**
**хоць бы паўжывых.**

Над гэтым возерам вісіць бяссмертнікам Кашчэй. Пра "зачараваны край", у якім апынуўся лірычны герой, сказана, што ён "**не мрэ і не жыве**". "Зачараваны край" асацыюецца тут з "Зачараваным царствам" Максіма Багдановіча. "Зачараваны край", што не мрэ і не жыве, — глыбока сімвалічны і шматмерны вобраз. У спачуванні і багаславенні герою мігціцца цень той "заплаканай жанчыны":

**У гэтай музыцы, дакорнай і**
**шчымлівай,**
**Ёсць цень адной заплаканай**
**жанчыны.**
**Яна ка мне прыходзіць**
**напамінам неспакойным,**
**Вяртаецца й бруіць па той**
**бок шыбінаў ваконных.**

Цень "заплаканай жанчыны" — скразны вобраз у зборніку Чыквіна "Свет першы і апошні", гэты вобраз і сімвалізуе той страчаны рай,той свет першы, якога ўжо няма, ён ужо "па той бок шыбінаў ваконных", настальгія па ім і лечыць лірычнага героя ад "розуму халоднага", што гасіць "хатні агонь".

У вершы "Свяшчэнны дождж" можна прыкмеціць два пласты, дзве плыні: плынь інтэлектуальную — "розум халодны" і эмацыянальную — "цень заплаканай жанчыны". Гэтыя дзве плыні — інтэлектуальная і эмацыянальная — і становяць эстэтычнае адзінства не толькі верша "Свяшчэнны дождж", але і зборніка ў цэлым.

У. Конан у сваім артыкуле "Жыццё і час у люстэрку паэзіі", змешчаным у кнізе Яна Чыквіна "Далёкія і блізкія", залічвае Яна Чыквіна да "плыні інтэлектуальнага трагізму, якая пачалася Эклізіястам, глыбока выявілася ў Дастаўскага, Ніцшэ, польскага паэта Ц. Норвіда, у некаторых творах нашага М. Багдановіча, урэшце ў экзістэнцыялізме нашага стагоддзя".

Канечне ж, "інтэлектуальны трагізм" — "розум халодны" — і "рацыяналізм", на які ўказвае таксама У. Конан, — гэта адна з прыкметаў паэзіі Яна Чыквіна. Але і "інтэлектуальны трагізм", і "рацыяналізм", і скептыцызм заўсёды сагрэты эмацыянальным напалам, ці, як кажа паэт, "жыватворнасцю":

**Не камень я,**
**не векавечны —**
**Таму згартаю святло**
**да святла,**
**Таму збіраю цяпло да цяпла.**
**за вызваленне мяне**
**ад цяжару**
**быць самім сабою**
**супраць сябе,**
**за лыжку ажыўляючай**
**вады,**
**за саломінку,**
**якую падала...**
**за музыку прытульную**
**тваіх званкоў-грудзей...**
**за човен, а стырнікам**
**якога ты мяне зрабіла...**
**каб вывеў нас**
**з даліны плачу...**

Але выйсця з "даліны плачу" няма. Перашкодай для павароту ў страчаны рай — "завалы прастораў":

**Між намі завалы прастораў,**
**Між намі планідаў кругі**
**Звіваюць яснасць жыцця**
**ў сутонь.**

Тым зырчэй выступае вобраз "заплаканай жанчыны": то яна свеціцца лірычнаму герою "бляскам спевам вачэй", то чаруе "музыкай цела", то яна ўваходзіць у дом лірычнага героя і ў "чашу жыцця, налітую спаўна, кладзе жывы пялёстак колеру распуснай жанчыны", то "плыве па моры постацяй дзявочай".

Вобраз "заплаканай жанчыны" выступае ў розных іпастасях: у вобразе Музы-дарадцы:

**О, мілы Божа, як жа ты**
**спанеў**
**і непрыкметным стаў.**
**І хоць цябе цяшы, хоць рэж,**
**нішто табе сям'я і дом,**
**і мае раны...**
**Ты ў іншу, хлопча, закаханы**
**і ўжо не пазнаеш мяне.**
**Глядзіш — і не бачыш,**
**што маеш — і траціш.**

**А з замужняй, той мурзаю,**
**ні дня не пражывеш.**
**І ночны час — не час без ласк**
**жывой кабеціны...**
**Праўдзівых муз цяпер**
**нямаш**
**на нашым подлым свеце;**

лірычны герой хрысціць "зачараваны край":

**Рукой дрыжачай я кладу,**
**Айчына,**
**На твар твой свята-светлыя**
**крыжы.**

У чытача зборніка "Свет першы і апошні" можа скласціся ўражанне, што ў кнізе няма актуальных, надзённых твораў, што ў зборніку дамінуюць творы філасофска-быційнага характару, і дзеля гэтага творы ў кнізе могуць успрымацца як творы, што не маюць нічога супольнага з нашай рэчаіснасцяй і знаходзяцца па-за часам, у нейкім там "свеце першым ці апошнім". Але такое ўражанне было б глыбока памылковым. Сапраўды, у зборніку непасрэдна-надзённых твораў не болей, як тры. Гэта "Дзеці Чарнобыля", што "як авечачкі, збіўшыся ў кучу, спяць на падлозе", верш "Пілсудскі-дзед глядзіць на ўсход", верш "Як колісь..." з радкамі "чорная музыка ўладарыць Варшавай, па вуліцах ідзе крокам Раскольнікаў". Сюды можна было б дадаць і верш "У шпіталі", дзе "цішыня **адхімічана**".

Вось гэта і ўся канкрэтыка, уся надзённасць. Але надзённасць не характэрная для творчасці Яна Чыквіна. Паэт Ян Чыквін карыстаецца іншым метадам — філасофска-сімвалічным, і дзеля гэтага нашае сёння, наша сучаснасць, наша эпоха выступае ў больш заглыбленым, абагульненым і дзеля паэтавай вобразнасці ў найбольш яркім абрысе. Паэзія Чыквіна ў вышэйшай ступені метафарычная, раскрыць гэтую метафорыку, сімвал, міф азначала б пазнаць наш час, нашу эпоху ва ўсёй дынаміцы і скіраванасці. Праблематыка творчасці Чыквіна не столькі ў нацыянальнай плашчыні, колькі ў глабальнай. Ці, лепей, праз нацыянальнае — "зачараваны край" — пазнаецца глабальнае. У гэтым адметнасць кнігі Яна Чыквіна "Свет першы і апошні". Яна творыць новую балонку ў нашай паэзіі.

**Масей СЯДНЁЎ.**
1998, Глен Коў, ЗША.

## МАЛАДЗЁЖНЫ ФЕСТЫВАЛЬ






**Рэспубліканскі фестываль "Студэнцкая вясна-98" прайшоў у Віцебску. У ім прынялі ўдзел і навучэнцы вучылішчаў і тэхнікумаў. У час фестывалю прайшлі конкурсы вакальна-харавога, дызайнерскага, тэатральнага і мастацтва цырульнікаў, канцэрты, сустрэчы і выступленні.**

**НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі фестывалю з Полацка; студэнты з Пінска выступаюць ля помніка У. Караткевічу.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

## ВІЦЕБСКАМУ ТРАМВАЮ – 100 ГОД



**Віцебскі трамвай — старэйшы ў Беларусі, уводзіўся ў строй па канцэсіі бельгійскім акцыянерным таварыствам у 1896—1898 гадах. Да пачатку яго пуску было пабудавана 5,15 кіламетра трамвайных ліній.**

**Адкрыццё трамвайнага руху ў невялікім губернскім горадзе было вялікай падзеяй. Мясцовы кампазітар С. Крамер нават напісаў з гэтай нагоды музычны твор "Трамвай-марш".**

**У гады Вялікай Айчыннай вайны трамвай, вядома ж, не працаваў: вагоны былі спалены, пуці разабраны. У пасляваенныя гады разам з будаўніцтвам і рэканструкцыяй горада ішло і аднаўленне трамвайнай гаспадаркі. Сёння працягласць трамвайных пуцей у Віцебску складае звыш 60 кіламетраў. Штодзённа ў гарадскіх трамваях перавозіцца каля 200 тысяч віцяблян.**

**НА ЗДЫМКАХ: першыя трамваі ў Віцебску; трамвай, атрыманы з Санкт-Пецярбурга да 100-гадовага юбілею; вадзіцель трамвая Дзіна РАБЦАВА.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**





## ДА ЮБІЛЕЮ ПЕРАКАЦІ-ПОЛЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

паэту, празаіку, крытыку, які нарадзіўся ў Магілёве ў 1868 годзе, — 130 гадоў. А што да Перакаці-Поле — гэта адзін з яго псеўданімаў.

Адна з першых публікацый нашага магілёўскага земляка — у часопісе "Пчелка" ў 1884 годзе. Так, цыкл сатырычных вершаў у адэскім, відавочна, штотыднёвым выданні — "Гейнаўскія матывы на рускі лад". Між іншым, адразу ўзнікае пытанне, а чаму, няхай сабе і сатырай выкладзенае, наследаванне ўсё ж такі менавіта Гейнэ? Па-першае, наследаванні былі ў літаратуры XIX стагоддзя больш выразнай, больш акрэсленай, чым сёння, традыцыяй, прыкметай. Па-другое, да месца, мяркую, будзе згадаць ужо аднойчы цытаванае, падкрэсленае Міхасём Мушынскім у Л. Гмырака (упершыню заяўленае ім у "Нашай ніве" ў кастрычніку 1913): "Вялікія пісьменнікі і паэты Шэкспір, Байран, Шылер, Гейнэ, Гюго, Дастаеўскі, Талстой... невядомай сілай ударають па сэрцах усіх культурных людзей, да якой бы яны нацыі ні належалі. Той народ, каторы гэтай праўды, што і чужому навучацца трэба, не разумее, ці не хоча разумець, праз гэта асуджае сябе на культурны застой, таксама, як той народ, каторы чураецца свайго, асуджае сябе на пагібель. Адным словам, са скарбаў агульналюдской культуры павінны мы карыстацца, але разам з тым павінны мы і самі жыць сваім культурным жыццём, каб магчы даць і сваю долю ў скарбніцу агульналюдской культуры, а даць тады толькі зможам, калі будзем стаяць на сваёй нацыянальнай аснове, калі свайго не будзем чурацца".

Пошукамі свайго ўласнага светапогляду апекаваўся і Гілель Калмансон. У 1895 годзе колішні магіляўчанін звяртаецца да перакладчыцкай работы. У адэскім часопісе "По морю и суше" з'яўляецца апавяданне ўкраінскай пісьменніцы Пчолкі (Касач-Драгаманавай) "Тры елкі". Перакладчык схаваўся пад псеўданімам Г. М. К-н. У тым жа годзе Гіленя бярэ пад нагляд кіеўская жандармерыя. Прычыны — перапіска брата рэвалюцыянера Якава Калмансона, а таксама добрае знаёмства з сям'ёю філосафа, пісьменніка Мікалая Бярдзяева, якая, таксама знаходзілася пад наглядам.

У 1903 годзе Гілель Калмансон уступае ў РСДРП(б). Да пачатку 1900-х адносяцца вершаваныя публікацыі колішняга магіляўчаніна на старонках расійскіх часопісаў "Ежемесячное сочинение", "Почтальон", "Беседа". З 1904 — штатны супрацоўнік "Правды", друкуе на яе старонках рэцэнзіі. Пра што вершы Калмансона таго часу? Надрукаваныя ў зборніку "Песни босяка" (Санкт-Пецярбург, 1907) вершы "На духу", "В укор" — жаданне вырвацца з цяжкай долі любой цаной. У вершах — настрой тугі, матыў бадзяжніцтва, нявер'е ў магчымыя блізкія перамены. Некаторыя вершы Калмансона былі ў хуткім часе перадрукаваны ўкладальнікам зборніка "Выбраныя творы рускай паэзіі" Уладзімірам Бонч-Бруевічам (Санкт-Пецярбург, 1908).

Не выключана, што сярод знаёмцаў Калмансона быў і другі наш зямляк — аўтар зборніка вершаў "Стихотворения рабочего", актыўны аўтар "Правды" А. Мікульчык (родам з Пухавіцкай воласці Мінскай губерні). Звернемся да "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі": "Мікульчык Аляксандр, рускі паэт-рабочы пач. 20 ст. Паводле некаторых звестак, жыў у Мінску, працаваў наборшчыкам у друкарні газ. "Северо-Западный край", у якой з 1905 змяшчаў свае вершы. Друкаваўся і ў газ. "Голос провинции", "Полесье" і інш. Вершы "Чаму ў гэту ноч не магу я заснуць" і "Дзякуй! Сціхлі душэўныя мукі" (Студз. — люты 1906) апубл. з паметай: "Мінскі астрог". Выдаў зб. "Вершы рабочага" (СПб., 1906). Змешчаны яго творы ў кнігах "Зборнік маладых пісьменнікаў" (Кіеў, 1911), "Зборнік вершаў" (Кіеў, 1913, з Д. Буцяевым і Г. Каранеўскім). Пісаў пра цяжкае жыццё рабочых, выяўляў іх рэв. імкненні ("Не вер ворагам", "Песня каваля", "Вясна" і інш.). Пазнейшыя вершы паэта прасякнуты настроямі тугі". Якраз у Кіеве асобнымі выданнямі выходзяць "Элегія ў прозе", "Свабода" і казка "Плакучая акацыя" Калмансона. А ў 1919 у Самары выходзіць яшчэ і кніга яго вершаў "Чырвоная Армія".

Што датычыць далейшай біяграфіі, то вядома, што ў 1917—1922 гадах наш зямляк быў на партыйнай і ваеннай рабоце ў Магілёве, Самары, Гомелі. Пазней жыў у Маскве. Менавіта Калмансон арганізаваў досыць вядомыя ў свой час гурткі рабочых паэтаў "Іскра", "Змена", "Вагранка". Актыўна займаўся і крытыкай, друкуючы рэцэнзіі ў часопісе "Октябрь", пасля — у часопісе "Земля советская". У 1937 годзе Калмансона (у 69 гадоў!) рэпрэсіравалі, расстралялі. Пасмяротна наш зямляк рэабілітаваны.

Такая вось юбілейная згадка пра Гіленя Калмансона, чалавека і літаратара свайго часу, які стаў і ахвярай свайго часу.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА ЗЕМЛЯКА

*Дасылаю на суд рэдакцыі вершы. Калі маюць яны якую-небудзь каштоўнасць — выкарыстайце іх па свайму гледжанню.*

*Сам я ваенны марак, амаль 30 гадоў назад пакінуў родную Беларусь, ды так і блукаю па свеце: такі лёс вайскоўца. Але як гэта вельмі часта бывае, у думках звяртаюся да мясцін дзяцінства і юнацтва, сэрцам гарнуся да матчынай мовы.*

*Ужо больш як год у Севастопалі існуе гарадская суполка беларусаў "Бацькаўшчына", удзельнікам якой з'яўляюся і я. Усё ж астатняе: думкі, падзеі, настрой — выкладаю ў вершах.*

*З павагай Валерый КАЗАКЕВІЧ.*

### МАЛЮНКІ ДЗЯЦІНСТВА

**Скарыначка хлеба,
Малочная шклянка —
Яшчэ што тут трэба
Хлапцу спазаранку!**

**Вясёлыя росы,
Палеглыя травы —
Імчыць як ёсць босы:
Чакаюць жа справы.
Па-першае — рэчка,
А потым суніцы,
Рабыя яечкі,
Гняздо над крыніцай,
Чмяліныя норкі —
Мядовыя скарбы,
Разліты па ўзгорку
Суквеццямі фарбы,**

**Шумлівыя сосны
Вітаюць здалёку,
Настрой калі млосны —
Адчуеш палёгку...
Дзяцінства малюнкі
Мільгаюць у думках,
Пачуццяў карункі
Марнеюць у клунках.
Лясы, сенажаці,
Гасцінец за млынам,
Ля веснічак маці
Абдымецца з сынам.**

**Салодкія слёзы —
Для сэрца абновы,
Дзяцінства бярозы
Ссякаюць на дровы...**

### ВЯСНА

**Зямля ачуняла ад спячкі зімовай,
Да шлюбу прыбраўся бярозавы гай,
Напоўнены долы птушынаю мовай,
Бягуць раўчукі агародамі ўскрай.**

**Ярыла няспешна абходзіць палеткі,
Зялёную песцячы промнямі рунь,
Вітаюць Ярылу ялінкі-падлеткі,
І ён жа зычлівы да юных красунь.**

**Ад сокаў п'янеюць юнакі-ґтаполі,
Ні больш і не менш — ім тут неба падай.
Вясна міласэрна: дарує нам волю,
Грахі адпускае — хоць зараз у рай.**

**Ды толькі не вельмі спяшаю к анёлкам,
Калі на зямлі так чакаю вясну.
Упэўнен: яна завітае на золку.
А сэрца як б'ецца! Ну ці час тут для сну!!**

### ШЫПШЫНА ЦВІЦЕ

**Спадарожніца ліпеньскіх відных начэй
Расквітнела шыпшына для ўцехі вачэй.
Заспявалі дзяўчаты на ўскрайку сяла,
Зарасла там сцяжынка, што да школы вяла.
Развіваецца песня паўнаводнай ракой,
Спасылаючы сэрцу цішыню і спакой.
Ужываюцца мірна з цішынёй галасы,
Апусціўшы галовы, моўчкі спяць верасы.
Таямнічасць начам шум лясны надае,
Карагоды у небе зоркі правяць свае.
У касмічным тумане Зямля ціха плыве...
На Радзіму шыпшына скрозь гады
зноў заве.**

## ДАСЛЕДАВАЎ І НАШ ФАЛЬКЛОР

Аляксей Грузінскі, з дня нараджэння якога споўнілася 140 гадоў (памёр 22 студзеня 1930 года), найбольш вядомы як рускі літаратуразнаўца. Аднак пачаткам яго навуковай дзейнасці стала даследаванне этнаграфічнай творчасці. Вывучаў Аляксей Яўгенавіч і беларускі фальклор, этнаграфію. Прынамсі, у артыкуле "З этнаграфічных назіранняў у Рэчыцкім павеце Мінскай губерні" (1891) расказваў пра побыт сляпых старцаў-жабракоў з Лоеўшчыны, якія жылі за кошт таго, што выконвалі духоўныя вершы і псалмы ў суправаджэнні колавай ліры, ператварыўшы гэты занятак у прафесійны. У артыкуле багаты пазнавальны матэрыял. Паведамляецца пра рэпертуар спевакоў, апісваецца сама ліра, звяртаецца ўвага на адметнасць яе канструкцыі. Цікавы і артыкул А. Грузінскага "Духоўныя вершы. Мінская губерня, Рэчыцкі павет" (1898), у якім падрабязна гаворыцца пра асаблівасці гэтага жанру вуснапаэтычнай творчасці. А ў 1901 годзе А. Грузінскі апублікаваў артыкул "П. В. Шэйн", расказаў у ім пра вядомага беларускага этнографа і фалькларыста.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку».
(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 874.
Падпісана да друку 25. 05. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.